PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 21 (1984) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 22 МАЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.



*Вясна і маладосць... чаго больш трэба!* **Фота Р. Сенькі**

*АЛЕГ ЛАТЫШОНАК*

## АЎТОБУСАМ У ЯЛОЎКУ

Знойдзены Ленай Глагоўскай тэкст „Аўтобусам у Ялоўку" (глядзі „Ніва" н-р 18 ад 1 мая 1994 г.) натхніў мяне паўтарыць падарожжа, адбытае ў 1938 годзе дапісчыкам „Хрысціянскай думкі".

Івось сядаю раніцай у аўтобус, які едзе з Беластока ў Ялоўку. Гэты аўтобус ідзе цяпер не праз Гарадок, але праз Заблудаў і Міхалова. Размоў людзей не чуваць, бо заглушае іх гучная музыка з радыёпрыёмніка, але фрагменты, якія да мяне даходзяць, дазваляюць не сумнявацца, што ўвесь аўтобус размаўляе па-польску. Што кідаецца ў вочы, дык гэта адносна вялікая колькасць школьнікаў, якія сядаюць па дарозе ў Заблудаў (едуць у тутэйшую пачатковую школу). Іншыя едуць у Міхалова, відавочна ў тутэйшы ліцэй. Калі ў падобнай сітуацыі на Падляшшы моладзь хоць часам перакінецца сваім словам, тут чуваць выключна польскую мову.

За Міхаловам краявід прыкметна прыгажэе і пусцее. Палі навокал аграмадныя, відаць калгасныя, зямля пакуль што апрацоўваецца. Пад'язджаючы да Бахуроў відаць рукаў вадасховішча Семяноўка, якое да непазнавальнасці змяніла краявід вярхоўя Нарвы. Прыгажосць вадзяной сінечы мімавольна наводзіць сум — пад гэтай жа вадою знікла Лука, вёска маёй маці і майго канікульнага дзяцінства. За тым жа Міхаловам пусцее не толькі краявід, але і наш аўтобус. У Ялоўку едзе толькі чатырох пасажыраў.

Высеўшы на ялоўскім рынку, заходжу я ў краму, каб купіць сабе булку. Аказваецца, замнога чакаў я ад тутэйшай крамы, у ёй толькі ўчарашні хлеб. Затое ўсе прысутныя ў краме „мяшчане" гавораць па-беларуску. Слова „мяшчане" пішу ў двукоссі, паколькі ад мястэчка засталася толькі прасторавая сістэма. Відаць дзе быў рынак, ад якога адыходзяць ва ўсіх напрамках вуліцы. Забудова рынку выгарэла падчас вайны і з местачковасці нічога не засталося.

Амаль следу не засталося таксама ад аднаго з двух тутэйшых касцёлаў, святога Антонія, якога называлі „чырвоным", у адрозненні ад „белага" Праабражэння Гасподняга. Чырвоны касцёл, з якога вежы відаць было Свіслач, узарвалі ў 1944 г. немцы. Уцалелыя муры былі пакрысе разабраныя пасля вайны. Большасць парафіі засталася па той бок мяжы і некаму было клапаціцца пра адбудову. Згарэла таксама царква, але яе адбудавалі пасля вайны ў „сучасным" стылі.

Накіроўваю свае крокі да пробашча белага касцёла, каб даведацца чагосьці пра ксяндза Семашкевіча, да якога ехаў мой папярэднік з „Хрысціянскай думкі" больш за паўстагоддзя таму. На жаль, ксёндз пробашч тут толькі ўсяго год і нічога не ведае. Знайшоў толькі ў сваім літургічным календары, што кс. Семашкевіч памёр у 1956 г. (а не ў 1955 г., як падае „Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва"). Крыху больш ведаюць старыя парафіяне. Адна з іх, Станіслава Галэцкая, успомніла, што ксёндз Семашкевіч хацеў у стадоле зрабіць млын. У касцёле пабудаваў калісь дзівосныя яслі і жанчыны калыхалі іх з асаблівай набожнасцю. Старэйшая тэрцыярак рабіла гэта так шчыра, ажно фігурка выпала з ясляў. Калі пабегла з бядою да ксяндза, той пажартаваў: „Замоцна калыхала, ты што думала".

Айцец Семашкевіч гаварыў з парафіянамі па-беларуску, але маёй інфарматаркай гэта не ўспрымаецца як нешта надзвычайнае. Для яе ўсе тадышнія ялоўскія ксяндзы былі беларусамі, бо паходзілі яны з-за сённяшняй мяжы. „Na Wilnie była kopalnia księży", — паясняе мне. У тым сэнсе выдзяляўся толькі ксёндз Чэрвінскі, які гаварыў палатышску. Як я зразумеў, нават казань гаварыў часам па-латышску, відаць, каб адвесці душу. Двойчы спытаўся я, ці так сапраўды было і пачуў станоўчы адказ.

Ксёндз Семашкевіч затое граў на гармоніку. Апрача гэтага вылучаўся вялікімі, насупленымі бровамі. Гэта ўжо ўсё, што я здолеў даведацца пра яго ў тутэйшых людзей. Пра тое, што быў ён беларускім, ды наогул, паэтам, ніхто з іх не чуў. Магчыма, здагадваюцца, ведалі пра гэта настаўнікі або чыноўнікі, але ім, простым людзям, не да паэзіі было.

Вацлаў Гайдучэня даў мне пачытаць свой сшытак, у якім запісвае ўсё, чаго даведаўся пра мінулае Ялоўкі. Адметнасць сшытка ў тым, што яго стваральнік устанавіў у ім прозвішчы ўсіх ялоўскіх яўрэяў. Чытаю гэтыя прозвішчы са здзіўленнем, бо яны боль-

☞ Працяг на стар. 4

## ЗАСТАЦЦА САБОЙ

**З АЛЯКСАНДРАМ ПАЛЕСКІМ, дзеячом беларускай эміграцыі ў Канадзе, зараз пражываючым на Беласточчыне размаўляе ЮРЫ КАЛІНА.**

— *Аляксандр, раскажы, якая была Твая дарога да беларускай свядомасці.*

— На гэтае пытанне вельмі цяжка адказаць мне нават самому сабе. Аднак, на маю думку, вялікае значэнне ў маім выпадку мела тое, што я з першага класа пачатковай школы (гэта было ў 1965 годзе) вучыўся беларускай мове. Ужо тады мы як малыя дзеці ведалі, што мы — не палякі.

Маё жыццё склалася так, што мая сям'я была бедная і мы жылі ў беднай вёсцы. А паколькі я быў наймешны ў нашай даволі вялікай сям'і (усіх дзяцей было пяцёра — чатырох хлопцаў і дзяўчынка), мне даводзілася пасвіць кароў. Амаль да 1975 года ўвесь мой свабодны час я хадзіў за каровамі па лугах і пушчы, пры нагодзе наглядаючы за прыродай, дрэвамі, птушкамі. Гэты фактар несумненна пакінуў свой след у маіх псіхіцы і характары. Як цікавінку з гэтага часу магу тут прывесці тое, што электрычнае асвятленне ў нашай хаце мы пабачылі толькі ў 1975 годзе.

У 1976 годзе, пасля заканчэння прафесіянальнай школы, трэба мне было вырашыць, што рабіць далей. Ужо тады мне было ясна, што будучыню трэба шукаць па-за Беласточчынай. Я склаў неабходныя рэчы і тыдзень пасля заканчэння школы выехаў у цэнтральную Польшчу. Спачатку ў Варшаву, затым у Лодзь. Мая першая эміграцыя, якая трывала прыблізна год, не дала чаканых вынікаў. Не знайшоўшы адпаведнага для сябе месца і працы, я вярнуўся на Беласточчыну. Папрацаваўшы ў Белавежы два гады, я, аднак, пераканаўся, што там для мяне месца няма. Затым я зноў выехаў у Польшчу, на гэты раз у Свінавусце.

— *Твой шлях у пошуках адпаведнага месца ў жыцці, ці лепш сказаць — для жыцця — характэрны многім жыхарам нашага рэгіёна, якія ў той час выехалі з Беласточчыны. Цікава, як успрымаліся выхадцы з беларускіх і праваслаўных вёсак у польскім і каталіцкім асяроддзі?*

— У маім выпадку я адчуў гэта ў час, калі працаваў на чыгунцы ў Кутне. Трэба адкрыта сказаць, што маё жыццё сярод палякаў (важнае ў гэтым выпадку, што ў большасці былі гэта выхадцы з Беласточчыны, якім добра былі вядомы тэрміны тыпу „кацап") не было лёгкім і прыемным. Вырашальнымі для іх было тое, што я не хадзіў у касцёл, маё прозвішча і мой усходні акцэнт.

Развязка праблемы магла быць адна — трэба было нейк з гэтым скрывацца і навучыцца жыць. З другога боку такія адносіны да маёй асобы паспрыялі мацаванню беларускай нацыянальнай свядомасці. Праўда таксама такая, што трэба было паводзіць сябе скрыта, і там дзе не

☞ Працяг на стар. 10

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Przedwojenne sfery pańskie, które zaczynały się już od posiadacza matury czy posady buchaltera, Polskę Ludową postrzegały jako gigantyczną erupcję chamstwa. Tymczasem cały ten potencjał chamstwa był przedwojenny. Masowy i pośpieszny awans społeczny milionów przedwojennych podludzi powodował, że niedouczony matoł z dawnych sfer wyższych poczuł wyższość wobec ludu z nowej epoki. Ci, z awansu społeczego mieli ogromne ambicje, żeby żyć i zachowywać się „kulturalnie”, co powodowało powstawanie obyczaju i estetyki karykaturalnej, żałosnej, imitacyjnej, pozbawionej smaku i wyczucia. Ważna jest odmiana chamstwa, która wyraża pańskość wobec innych. Narody ościenne przypisują tę odmianę chamstwa Polakom.*

*(Polityka, nr 18)*

* * *

***Бог даў Беларусі не толькі самае горшае ў свеце начальства, але і самых нікчэмных патрыётаў, самых баязлівых палітыкаў, самых бязвольных змагароў.***

***(Наша Ніва, н-р 3)***

За тое дастаткова ў нас высакародных п'яніцаў, паэтаў і песняроў.

* * *

*Dużo czasu kilku bielskich radnych straciło na dochodzenie, czy szkoły z białoruskim językiem nauczania mogą w Bielsku Podlaskim istnieć, czy nie. Szukali długo pretekstu do ataku na białoruskie szkolnictwo. Nie znaleźli, ale ciągle ich boli, że w Bielsku dzieci i młodzież uczą się języka białoruskiego.*

*(Kurier Podlaski, nr 82)*

Пакуты і роспач бельскіх райцаў з прычыны навучання ў іх горадзе ў двух школах беларускай мовы ёсць так вялікія, што некаторыя з бяссілля думаюць закончыць сваё жыццё самагубствам. Шчыра ім спачуваем. Гэта ж сапраўды скандал, каб у Вольнай Польшчы хтосьці яшчэ гаварыў на іншай, чым польская, мове.

* * *

*99,99 proc. obywateli Turkmenistanu opowiadało się za polityką Nijazowa, który zostanie prezydentem do 2002 roku. Kiedy w 1990 r. Nijazow, były pierwszy sekretarz Komunistycznej Partii Turkmenistanu, dał się wybrać na prezydenta, prowadzi politykę kultu swej osoby. Portrety Nijazowa są wszędzie — na murach, wystawach sklepowych, na szybach autobusów. Jest on jednocześnie prezydentem, premierem i przewodniczącym jedynej legalnej partii — Demokratycznej Partii Turkmenistanu przekształconej z Komunistycznej Partii Turkmenistanu. Struktury partii są strukturami państwowymi. Największy kanał irygacyjny świata na pustyni Kara-Kum dawniej Lenina, dziś nazywa się Nijazowa. Z cokołów pomnika znikły posągi wodza rewolucji, postawiono tam pomniki Nijazowa. Imieniem prezydenta nazywa się szkoły, kołchozy, drogi, stadniny koni, miasta.*

*(Rzeczpospolita, nr 98)*

Прынамсі ў адной дзяржаве былога СССР існуе нейкі, зразумелы ўсім, парадак, дзе вядома хто ёсць хто.

* * *

***Выйшлі ў свет кнігі асобных аўтараў „Белавежы": Віктара Шведа, Сакрата Яновіча, Алеся Дамскага, Надзеі Артымовіч, Міхася Шырковіча, Міколы Гайдука, Віктара Петручука.***

***(Наша слова, н-р 17)***

Каб чытачу „Нівы" было зразумелым, пра што піша менская газета паясняем, што Алесь Дамскі, гэта ніхто іншы як Алесь Барскі, Міхась Шырковіч гэта Міхась Шаховіч, Віктар Петручук гэта Васіль Петручук. Усе іншыя імёны і прозвішчы „белавежцаў" напісаны як трэба.

* * *

*W Polsce istnieje dwadzieścia parę milionów obywateli, którzy niczego nie pragną tworzyć, a pragną jedynie przeżyć, są nastawieni na osiągnięcie minimum w życiu, którego nie przekraczają i co gorsze przekroczyć nie chcą.*

*(Polityka, nr 19)*

Беларусізацыя Польшчы ідзе поўным ходам.

* * *

***У характары расейцаў і палякаў ёсць шмат супольнага.***

***(Літаратура і мастацтва, н-р 16)***

Гэта ж братнія народы.

* * *

*85 proc. swojego eksportu Białoruś kieruje na wschód i jedna decyzja Kremla może sprawić, że w ciągu krótkiego okresu czasu stanie się ona bankrutem. Żadne z państw sąsiadujących z Białorusią nie jest przecież zainteresowane kupowaniem jej towarów.*

*(Najwyższy Czas, nr 14)*

Літва, таварышы лібералы, была ў такой жа сітуацыі.

* * *

*Cóż mieli nam do zaoferowania przywódcy ukraińscy? Odkąd Kijów stał się niezależny, w kraju panuje bałagan. Inflacja przekracza 80 proc. miesięcznie, objęła również Krym. Ukraińscy przywódcy to złodzieje. Wymienili nasze pieniądze na swoje karbowańce. Za 60 tys. wyszło 15 dolarów. W rublach byłoby 20 razy więcej. Rosjanie i Ukraińcy wszyscy jesteśmy słowiańskimi braćmi,* — заяўляюць жыхары Крыма.

*(Rzeczpospolita, nr 57)*

Украина всегда вместе с сестрой Россией.

* * *

*Na cmentarzu Komunalnym w Barlinku (woj. gorzowskie), gdzie wdowa po katoliku zaprotestowała przeciwko pochowaniu obok swego męża 94-letniej kobiety, świadka Jehowy, ciało staruszki ekshumowano i przeniesiono na odległe miejsce na cmentarzu.*

*(Polityka, nr 15)*

Пані ад сведкаў Яговы магла б, напрыклад, пераканаць нябожчыка-каталіка да свайго веравызнання. Быў бы скандал на ўсё пекла!

* * *

*Recepta na modny ostatnio „drink" wygląda następująco: wymieszać pół litra denaturatu i 0,75 l najtańszego wina, podawać w szklankach, na zakąskę może być słonina lub kiszony ogórek. Zdaniem smakoszy — zdrowo, smacznie i skutecznie.*

*(Gazeta Współczesna, nr 83)*

# З мінулага тыдня

**У 49 гадавіну капітуляцыі Германіі** і заканчэння II сусветнай вайны да Магілы невядомага салдата ў Варшаве вянкі ўзлажылі дэлегацыі парламента, урада, ветэранаў і моладзі. Ля маўзалея вайсковай славы адбылася ўрачыстая змена ганаровай варты.

**Паводле прэм'ер-міністра Вальдэмара Пауляка** „страйкавая атмасфера мінае", што стварае добры клімат для непасрэдных перамоваў і вырашання пытанняў. На сустрэчы з журналістамі рэгіянальнай прэсы прэм'ер сцвердзіў, што ўрад зацікаўлены ў захаванні асноўнага прынцыпу дэмакратыі — удзельніцтва ў перамовах усіх, хто падпісаў „Пакт аб прадпрыемстве", і таму ўрад надае значэнне перагаворам у рамках трохбаковай камісіі (урад, „Салідарнасць", ОПЗЗ). Прэм'ер В. Паўляк дабавіў, што кампенсацыі за час страйкаў — згодна з законам — павінны выплаціць прафсаюзы, а не работадаўцы, чаго дамагаюцца забастоўшчыкі.

**Прэзідэнт Лех Валэнса** нанёс афіцыйны візіт у Эстонію. Вынік візіту — дэкларацыя садзеяння ў будове сістэмы еўрапейскай бяспекі, стварэнне клімату для шырэйшага гаспадарчага супрацоўніцтва, падтрымка ідэі будовы аўтастрады Віа Балтыка.

**Прэзідэнт РП Лех Валэнса** сустрэўся з лідэрам нямецкіх сацыял-дэмакратаў **Рудольфам Шарпінгам.** „Польшча адводзіць многа ўвагі супрацоўніцтву з Нямеччынай, — сцвердзіў Л. Валэнса. — Зробім усё, каб нашае суседства было прыемным". Прэзідэнт РП выказаў спадзяванне, што візіт Шарпінга паспрыяе развіццю польска-нямецкага супрацоўніцтва. Старшыня СПД заявіў, што добрыя адносіны паміж Польшчай і Нямеччынай маюць значэнне для ўсёй Еўропы. Дадаў ён, што цяперашні перыяд вялікіх шанцаў трэба „выкарыстаць і пракласці шлях у супольную Еўропу, якой састаўной часткай з'яўляецца Польшча".

**Герберт Гупка** — колішні правадыр зямляцтва сілезцаў у нямецкім Саюзе выгнаннікаў, а цяпер прэзідэнт Фонду „Усходненямецкая рада культуры", на пытанне, ці адабрае ён границы на Одры і Нысе, сказаў, што „заключаныя ўрадам трактаты трэба паважаць і таму акцэптуе іх", аднак, як грамадзянін дэмакратычнай дзяржавы, мае ён права не згаджацца з такімі рашэннямі. „Польска-нямецкі трактат, — паводле Г. Гупкі, — узаконіў сталінскі падзел гэтай часткі Еўропы. У такі спосаб справа выгнання немцаў была ўзложана на алтар добрасуседскіх адносін паміж Польшчай і Нямеччынай".

**Праект закона аб дэнамінацыі злотага быў адобраны Эканамічным** камітэтам Рады Міністраў. Праект прадугледжвае, што з 1 студзеня 1995 г. сённяшняе 10 000 злотых стане 1 злотым. На працягу двух гадоў абавязваць будуць дзве валюты — старая і новая. Адзін долар па цяперашнім курсе варты будзе 2 злоты 30 грошаў.

**Настаўнікі польскай мовы ў Беларусі** змогуць павышаць свае кваліфікацыі і атрымаць дыплом па спецыяльнасцях пачатковае навучанне і культурна-асветная педагогіка на факультэце педагогікі і псіхалогіі Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку. Пагадненне, якое падпісалі рэктар Філіяла ВУ праф. **Уладзіслаў Сэрчык** і старшыня „Wspólnoty Polskiej" праф. **Анджэй Стэльмахоўскі**, прадугледжвае магчымасць навукі для шасцідзесяці студэнтаў.

**Пачаліся матуры** — экзамены на атрыманне атэстата сталасці. У Беластоцкім ваяводстве экзамены здае 5100 вучняў сярэдніх школ, у тым ліку 2600 ліцэістаў.

У Куклях каля Сейнаў цэнтр **„Пагранічча культур, мастацтваў і народаў"** арганізаваў для дзяцей і моладзі творчыя сустрэчы. Прыняло ў іх удзел шэсцьдзесят хлопцаў і дзяўчат з наваколля і з Літвы, украінскіх з Баняў-Мазурскіх і стараверскіх з Габовых Грондаў каля Аўгустова ды гуральскія дзеці з ваколіц Жыўца. Мэта спаткання, якое праходзіла пад лозунгам „Будуем гняздо" — стварыць магчымасць пагаднення паміж прадстаўнікамі розных нацый, рэлігій і культур.

**У Беластоку** праводзяцца тэхнічныя выпрабаванні новага радыёперадатчыка, пры дапамозе якога стане магчымай эмісія праграмы Радыё Бласток на заходняй частаце — 100,2 МГц.

**У Варшаве** пачаўся судовы працэс 45-гадовага адстаўнога маёра Службы бяспекі Марка З., які абвінавачваецца ў шпіянажы ў 1981-1990 гадах на карысць савецкай ваеннай разведкі ГРУ.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- У літоўскім ліцэі вучні і настаўнікі карыстаюцца выключна роднай мовай — рэпартаж Г. Кандрацюк.
- Алкаголь спадарожнічае чалавеку з першых дзён ягонага жыцця — А. Максімюк пра алкагольныя запоі сярод дзяцей.
- Якімі праблемамі жыве беларуская моладзь? — рэпартаж М. Лукшы з Менска.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### За цывілізаваную кампанію

Пры Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ створаны Кансультацыйны савет, прызначаны сачыць за тым, каб перадвыбарная агітацыйная кампанія мела цывілізаваны карэктны характар. У яго ўвайшлі вядомыя юрысты, журналісты, дзеячы культуры, якія з юрыдычнага і маральна-этычнага пункту гледжання будуць ацэньваць выступленні кандыдатаў у прэзідэнты і іх давераных асоб у сродках масавай інфармацыі, на мітынгах і сустрэчах з выбаршчыкамі. Імёны членаў Кансультацыйнага савета пакуль што не называюцца, каб не дапусціць да аказання на іх якога-небудзь ціску. Аднак, як запэўніў старшыня Цэнтральнай камісіі Аляксандр Абрамовіч, гэтыя людзі не належаць ні да левых, ні да правых.

### Канферэнцыя „Усход — Захад"

Па запрашэнню Польскага агенцтва замежных інвестыцый у Варшаве прабывала дэлегацыя беларускіх прадпрымальнікаў — кіраўнікоў знешнегандлёвых аб'яднанняў на чале са старшынёю Дзяржаўнага камітэта па знешніх эканамічных сувязях Уладзімірам Радкевічам. Прадстаўнікі Беларусі прымалі ўдзел у канферэнцыі міністраў эканомікі, прамысловасці і гандлю краін „вялікай сямёркі" ды краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, якія сталі на шляхах рэформы. На працягу трох дзён абмяркоўваліся юрыдычныя, фінансавыя і практычныя аспекты замежных інвестыцый, працэс прыватызацыі, праблемы гандлю з Усходам і Захадам.

### Праблемы навуковай тэрміналогіі

У Менску праходзіла першая нацыянальная канферэнцыя „Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі", якой галоўным арганізатарам выступіла Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. У ходзе канферэнцыі разглядаліся пытанні распрацоўкі беларускай тэхнічнай тэрміналогіі, укладання рознагаліновых слоўнікаў, практычны досвед айчыннай тэрмінавытворчай дзейнасці.

### Аднаўленне святыні

Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына" прыняло рашэнне пра аднаўленне нацыянальнай святыні Беларусі — крыжа Еўфрасінні Полацкай, які знік падчас II сусветнай вайны. Нядаўна зварот ЗБС у прэсе пра фінансавую падтрымку гэтага праекта беларускія прадпрымальнікі праігнаравалі. Яшчэ нядаўна на рахунак „Бацькаўшчыны" паступіла толькі каля васьмі тысяч рублёў добраахвотных ахвяраванняў. Нягледзячы на такую абыякавасць айчынных бізнесменаў, мастак-ювелір з Брэста Мікола Кузміч завяршае работу над праектам крыжа Еўфрасінні Полацкай.

### Тры выставы

У рэспубліканскай галерэі ў Палацы мастацтваў адкрыліся адразу тры выставы. Яны прысвечаны дню памяці Еўфрасінні Полацкай. У зале жывапісу — экспазіцыі двух знакамітых беларускіх мастачак: Алены Лось і Валерыі Жоўтак. Выстаўку дзіцячай творчасці, прысвечаную Вялікадню і памяці Еўфрасінні Полацкай, паказваюць удзельнікі дзіцячых студый і школ.

### Дабрадзейнасць урада

6 мая быў адноўлены выпуск рэспубліканскіх газет: „Звязды", „Народнай газеты", „Савецкай Беларусі" і „Мінскай праўды". Пасля доўгіх перамоваў з кіраўніцтвам Вярхоўнага Савета і ўрада рэспублікі, 4 мая ў час сустрэчы са старшынёю Савета Міністраў Вячаславам Кебічам знойдзена папярэдняе рашэнне пытанняў, пастаўленых тыдзень назад у звароце рэдактараў чатырох выданняў: выдзяляецца тысяча тон паперы з дзяржаўных рэзерваў, надалей будзе наладжана цэнтралізаваная закупка паперы, знізіцца таксама і кошт паліграфічных паслуг.

### Мадэрнізацыя аўтастрады

Урад Беларусі ўпаўнаважыў сваіх прадстаўнікоў падпісаць з Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця пагадненне аб прадстаўленні крэдыту на мадэрнізацыю аўтамабільнай трасы Брэст — Мінск — граніца Расеі. Гэта ініцыятыва зыходзіць ад ЕБРіР. Работы пачнуцца ўжо гэтым летам.

### І зноў вінаваты пакупнікі

Вострую праблему збыту выклікала на Жлобінскім малочным заводзе павышэнне цэн на смятану і тварог. Калі раней у гандаль горада адпраўлялася кожны дзень па 3,5 — 4 тоны гэтых прадуктаў, дык цяпер не больш за 1,5 тоны. А вось на малако і кефір, якія не падаражалі, попыт значна вырас. Але завод не можа задаволіць патрэбы гараджан у гэтых прадуктах. Асноўнай прычынай на заводзе лічаць несвоечасовае вяртанне шклатары жыхарамі горада. Вось і атрымліваецца, што гэта яны сабе самі ўскладняюць жыццё.

### Салдацкая неахайнасць

У Пастаўскім раёне ў расейскай вайсковай часці, якая перадыслакавалася ў Краснадар, некалькі дзён да выезду адбыўся зліў газы, якая трапіла ў возера Мажэйскае. Заканамерным вынікам гэтага стала ўзгаранне чароту. На шчасце пацярпелых няма. Уцечкай газы зацікавілася раённая пракуратура, якая па гэтым факце пачала следства.

# ПАНАРАМА МІХАЛОЎСКАЙ ГМІНЫ

## (10)

## Дэмаграфія

Міхалоўская гміна займае плошчу ў 40 919 гектараў. У ёй 41 салэцкая вёска. Найбольшыя з іх гэта: Міхалова (яно налічвае 3 680 жыхароў), Ялоўка (397), Новая Воля (362), Бандары (358), Шымкі (330), Навасады (243), Тапаляны і Жэдня (па 220). Ва ўсёй гміне пражывае 9 090 чалавек, што складае 1,68% насельніцтва Беластоцкага ваяводства.

— Насельніцтва размешчана на тэрыторыі гміны нераўнамерна, — паінфармавала кіраўнічка ЗАГСа Галіна Сушынская. — Ніжэйшая шчыльнасць там, дзе знаходзяцца дзяржаўныя і прыватныя лясы. У Міхалоўскай гміне паказчык шчыльнасці насельніцтва 15—30 жыхароў на адзін квадратны кіламетр і падобны, як і ў суседніх гмінах.

У 1993 годзе ў гміне нарадзілася 105 дзяцей, у тым ліку 56 дзяўчынак. Бацькі найчасцей даюць ім такія імёны: Ангеліка, Іаанна, Кацярына, Агнешка, Юстына, Сільвя, Паўліна, Мілена, Патрыцыя, Эвеліна, Магдаліна, Наталля і Караліна, а для хлопчыкаў: Давід, Шымон, Кароль, Данель, Абель, Марцін, Лукаш, Мар'юш, Міхал, Якуб, Матэвуш, Тамаш, Пётр, Ігар, Пшэмыслаў і Сільвестар.

У мінулым годзе сышлася 41 пара. Найбольш вяселляў было ў месяцы верасні — сем ды ў маі і ў жніўні — па шэсць. У адным выпадку не дайшло да шлюбу. У назначаны дзень маладому раптам адхацелася жаніцьбы і ён з самага рання (каб хаця не сустрэцца са сваёй нарачанай) з'явіўся ў ЗАГСе і сказаў: „не".

Сёлета 50 угодкі шлюбу адзначаюць сужонствы: Казімір і Юлія Свяржэўскія з Новай Волі, Браніслаў і Ядвіга Жывецкія з Міхалова, Антон і Галена Барчынскія з калёніі Мастаўляны, Казімір і Каміля Казберукі з Лявонавіч, а таксама Ян і Станіслава Рамануоўскія, Ян і Мар'я Гайдучэні ды Станіслаў і Станіслава Гудэлі з Ялоўкі.

Найстарэйшыя жыхары гміны: Мар'я Бароўская (нарадзілася яна ў 1887 годзе) з Бандароў, Соф'я Млыноўская (1890 г.) з Ялоўкі, Юзэф Грыка (1892 г.) з Залешанаў, Мар'я Мурашкоўская (1893 г.) і Канстанцін Мурашкоўскі (1895 г.) з Бахуроў ды Міхал Рубчэўскі (1894 г.) з Міхалова.

З сумнай хронікі: у 1993 годзе ў гміне памерла 118 чалавек. Колькасць насельніцтва рэзка змяншаецца: калі ў 1992 годзе ў Міхалоўскай гміне пражывала 9 170 чалавек, дык цяпер — 9 090.

І яшчэ некалькі дэмаграфічных цікавінак. У 1921 годзе ў Міхалове пражывала 2 176 чалавек. Ад 1926 да 1936 года колькасць насельніцтва павялічылася на 3 702 жыхароў і было ўжо 5 878 асоб. Зараз пражывае менш людзей чымсьці да вайны 1939 года. У канцы 1990 года Міхалова налічвала 3 634 асобы, цяпер — 3 680 і ёсць тэндэнцыя далейшага росту колькасці насельніцтва ў сядзібе гміны.

А вось парафіяльныя статыстыкі з гэтай галіны паводле выдадзенай друкам у 1992 годзе „Бібліяграфіі праваслаўных парафіяў на Беласточчыне — дэмаграфічная частка" а. Рыгора Сасны:

— **У Ялоўскай парафіі** ў 1990 годзе было двое хрэсьбінаў, тры шлюбы і 33 пахаванні ды ў 1991 годзе ахрысцілі шасцёра дзяцей, пад вянец сталі дзве маладыя пары, памерлі 35 чалавек;

— **у парафіі Юшкаў Груд** у 1990 годзе ахрысцілі пяцёра дзяцей, павянчаліся тры пары ды памерлі чатырнаццаць асоб, а ў 1991 годзе хрэсьбіны — чатыры, шлюбы — тры ды памерлі пятнаццаць чалавек;

— **у Міхалоўскай парафіі** ў 1990 годзе аднатавалі 32 хрэсьбінаў, пяць шлюбаў і 33 пахаванні ды ў наступным годзе гэтаксама 32 хрэсьбінаў, дзевяць шлюбаў і 29 пахаванняў;

— **у Нававольскай парафіі** ў 1990 годзе было восем хрэсьбінаў, сем пар ставала пад вянец ды памерлі адзінаццаць чалавек, а ў наступным годзе ахрысцілі тую самую колькасць — васьмёра дзетак, павянчаліся ў царкве чатыры пары маладажонаў ды пакінула гэты зямны свет дзевятнаццаць чалавек;

— **у Тапалянскай парафіі** ў 1990 годзе адбылося пяць хрэсьбінаў, два шлюбы і адзінаццаць пахаванняў ды ў 1991 годзе: трое хрэсьбінаў, два шлюбы і пяць пахаванняў.

## Жыллёвае будаўніцтва

У 1972 годзе па ініцыятыве фабрычнага калектыву мясцовай тэкстыльнай заснавалі Жыллёвы кааператыў у Міхалове. Першы шматкватэрны двухпавярховы будынак здалі ў карыстанне восенню 1973 года. Кватэры атрымалі ў ім 36 сем'яў. Да 1990 года „спулдзельня" пабудавала ў Міхалове (яна будуе таксама і ў суседнім Гарадку) пяць жылых блокаў, а ў іх 140 кватэр. Усе яны ў раёне вуліц Гарадоцкай, Геранімоўскай і Сянкевіча. Зараз „спулдзельня" спыніла далейшае будаўніцтва, бо для гэтага неабходная ачышчальня сцёкаў — найлепш для ўсёй мясцовасці.

Пабудову водаправода пачалі 4 ліпеня 1975 года і закончылі 28 верасня 1976 года (яго даўжыня ў 12,5 км). Ваду падключылі з двух глыбінных студняў. Пабудавалі таксама неабходную для працы водаправода гідрафорню.

Апрача таго да 1981 годзе Сельскагаспадарчы камбінат у Міхалове пабудаваў 90 жылых кватэр у шасці блоках. Гэты жыллёвы пасёлак знаходзіцца на ўскраіне мясцовасці.

Варта адзначыць, што міхалоўская Гмінная ўправа першая ўключылася ў жыллёвае будаўніцтва. Вясной 1960 года распачала яна пабудову двух блокаў (на васемнаццаць кватэр кожны) па вуліцы Сянкевіча і здалі іх у карыстанне ў кастрычніку 1961 года. Летам 1965 года жыхары гэтых блокаў у грамадскім пачыне правялі водаправодную лінію і падключылі ваду ў свае кватэры са школьнай гідрафорні. Былі гэта першыя жылыя кватэры ў Міхалове з вадой з крана ды з каналізацыйнай інсталяцыяй, якой адплываюць сцёкі.

У васьмідзесятых гадах самі жыхары Міхалова пабудавалі пару дзесяткаў аднасямейных дамоў. Між іншым, у 1981 годзе дваццаць чалавек атрымалі дазвол на пабудову. І ўжо тады былі раздзелены ўсе пляцы пад аднасямейнае будаўніцтва.

Новыя дамы ставілі жыхары таксама ў пасобных вёсках. Даволі вялікі жыллёвы пасёлак атрымаўся ў Бандарах. Зараз тут жывуць у блоках перш за ўсё сем'і з затопленых Семяноўскім вадасховішчам вёсак.

## Жыццё без „засілку"

Зараз у Міхалоўскай гміне 230 беспрацоўных не мае ўжо права на так званы „засілак" (невялікую некалькімесячную фінансавую дапамогу) і колькасць іх — як дагэтуль — з кожным амаль месяцам... павялічваецца. У гэтай групе найбольш чалавек мела разнародную прафесіянальную падрыхтоўку з няпоўнай сярэдняй адукацыяй і крыху менш — дакладна 44 асобы — сярэднюю адукацыю. Працы не можа знайсці сабе таксама тры асобы з вышэйшай адукацыяй.

У лютым 1994 года каля дзесяці чалавек прыняла на працу мясцовая тэкстыльная фабрыка „Польплед". У сакавіку прывучыліся тут да працы яшчэ 23 жанчыны.

У 1993 годзе ў Міхалоўскай гміне пастаянную грашовую дапамогу атрымлівала 67 чалавек (ім выплацілі 696 мільёнаў злотых), перыядычную дапамогу — 108 чалавек (400 мільёнаў злотых) і аднаразовую — ажно 565 чалавек (252 мільёны злотых).

*(Працяг будзе)*

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Як мяне „зрабілі" солтысам

Здарэнне гэтае мела месца ў 60-тыя гады. У Дубічах-Царкоўных праходзіў якраз выбар новага солтыса. Хто яго выбіраў? Людзі падумаюць, што жыхары вёскі мелі ў гэтай справе вырашальны голас. Не ведаю што і як, але ў нас, у Дубічах-Царкоўных, кандыдата ў солтысы ставіла партыя. Як гэта адбывалася? Перад выбарамі партыя праводзіла свой сход ды на ім вызначала свайго кандыдата ў солтысы — рабілася гэта з разлікам на тое, што кандыдат у сваю чаргу запішацца ў партыю. На партыйным сходзе вызначаўся яшчэ адзін таварыш, які меў выступіць на агульным вясковым сходзе ды прадставіць „свайго" кандыдата. Кандыдат гэты аднагалосна праходзіў, бо людзі баяліся нікчэмнасці і інтрыг начальніка гміны, сакратара партыі ды ўсёй гэтай вярхушкі.

І вось, гэтым разам на солтыса выбралі маладога ў той час селяніна — Мікалая Тафілюка (няма ўжо яго ў жывых; хаця і быў ён гарачым прыхільнікам народнай улады, у партыю ніколі не запісаўся). Пра гэтае здарэнне напісаў я невялікую нататку ў „Ніву", маўляў, у нас у Дубічах-Царкоўных солтысам стаў малады і дбайны селянін Мікалай Тафілюк. Праз некалькі тыдняў бяру я ў рукі „Ніву" ды валасы мне дыбам на галаве падымаюцца. Там чорна па белым напісана: жыхары вёскі Дубічы-Царкоўныя выбралі новым солтысам Мікалая Панфілюка і ён апраўдае іхні давер, бо гэта патрыёт беларускай зямлі... Рэдакцыя яшчэ двойчы ад сябе дадала пра маё геройства і г.д. Давай я хуценька пісаць сваю споведзь у рэдакцыю, выпраўляць памылку „Нівы" — каб жыхары вёскі і знаёмыя з мяне не насміхаліся.

Ліст ад Георгія Валкавыцкага, праўда, я атрымаў — з даволі цьмяным тлумачэннем і такой жа просьбай прабачэння за дапушчаную памылку. Але папраўкі ў „Ніве" на гэты конт ніколі не было. А папраўкі ў „Ніве" траплялся і ў той час, калі нейкі сакратар, начальнік, дырэктар школы ці хто яшчэ наблытаў у сваім артыкуле або зрабіла гэта рэдакцыя. „Ніва" тады перапрашала на ўсе лады і склады.

Цяпер, калі маем свабоду і дэмакратыю, калі тадышнюю кадру „Нівы" замянілі новыя людзі, думаецца мне, ці „Ніва" ўзяла б на сябе віну за дапушчаную памылку і нанесла б неабходную папраўку? Няхай спадар Я. Міранові адкажа.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

**Ад рэдакцыі:** Паважаны спадар Панфілюк, не ведаю як гэта было ў 60-х гадах, але думаю, што тадышні галоўны рэдактар „Нівы" Г. Валкавыцкі не думаў нікога свядома асмяшаць ці абражаць, у тым ліку і Вас. Часам здараліся, так як і цяпер здараюцца, розныя недахопы ў рэдакцыйнай працы, а ўсё гэта таму, што мы — працаўнікі рэдакцыі — толькі недасканалыя людзі. Калі хтосьці зверне нам увагу на нашыя памылкі, а яны настолькі істотныя, што мяняюць сэнс выказвання аўтара ці рэчаіснасці, якую прадстаўляе, заўсёды перапрашаем, або даем магчымасць выказаць свае абурэнне самому зацікаўленаму. Напэўна не звяртаем увагі на прафесію, адукацыю, пасаду ці палітычныя сімпатыі нашых аўтараў, а толькі на тое, што і як пішуць. А памылкі робяць усе людзі, якія штонебудзь робяць.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# У КУЗАВЕ ДРУЖНЫ НАРОД

Кузава — адна з большых вёсак Чаромхаўскай гміны. Яна амаль ужо спалучылася з самой Чаромхай. Цяпер гэтыя дзве мясцовасці раздзяляе толькі рэчка Нурчык.

Кузаўцы — дружны народ і калі трэба нешта карыснага зрабіць для агульнай справы, не шкадуюць ні сваёй працы, ні сваіх грошай. Такім спосабам жыхары Кузавы збудавалі дарогу-гравійку з вёскі на могільнік. Грамадскім чынам быў таксама разбудаваны вясковы клуб. Ранейшая святліца аказалася цеснай і нявыгаднай. Пры матэрыяльнай дапамозе войта Чаромхаўскай гміны Міхася Врублеўскага плошча клуба павялічылася ўдвая. У ім цяпер адбываюцца вяселлі, навагоднія вечарыны і іншыя мясцовыя мерапрыемствы.

Іншы прыклад добрага супрацоўніцтва жыхароў вёскі з уладамі гміны і яе войтам — гэта пабудова водаправода. Выйшла так, што Гміннай управе не хапіла грошай, каб завяршыць пракладку водаправода і тады войт звярнуўся з заклікам аб фінансавай падтрымцы. Сяляне адгукнуліся станоўча і кожны гаспадар адразу ўплаціў цэлую належную яму суму. Сабраныя такім чынам грошы дазволілі затрымаць на тэрыторыі гміны фірму „Водроль" да часу атрымання новай датацыі з Ваяводскай управы. Войт даценіў ахвярнасць кузаўцаў і паабяцаў пакрыць асфальтам вясковую вуліцу, магчыма, яшчэ ў гэтым годзе. Залежыць гэта будзе ад выніку лабараторнай экспертызы дарожнага палатна. Кузаўцы і гэтым разам паабяцалі грашовую дапамогу.

Як відаць, добрае супрацоўніцтва карыснае абодвум бакам — і жыхарам вёскі, і гмінным уладам.

**(ус)**

# ЗАМАЦОЎВАЕЦЦА СУПРАЦОЎНІЦТВА

Зносіны паміж навуковымі працаўнікамі абодвух частак Белавежскай пушчы — польскай і беларускай, пераходзілі розныя этапы, перыяды. Раз узмацняліся, другі раз слабелі. Апошнімі гадамі выразна назіраецца іх ажыўленне. У гэтым годзе дайшло нават да падпісання пагаднення аб супрацоўніцтве паміж нашым Белавежскім нацыянальным паркам і суседнім Дзяржаўным нацыянальным паркам „Белавежская пушча".

У дакуменце нагадваецца аб супрацоўніцтве ў сферы навуковых даследаванняў, помачы вучоным абодвух дзяржаў (напрыклад, забеспячэнне начлегамі), супольным абмеркаванню на пасяджэннях навуковых радаў праблемаў, якія датычаць Белавежскай пушчы, абмену публікацыямі ці аб дапамозе ў публікаванні найбольш каштоўных вынікаў навукова-даследчых прац. У пагадненні прадбачваецца таксама пашырэнне дыяпазону супрацоўніцтва на іншыя галіны дзейнасці абодвух паркаў.

**ПЁТР БАЙКО**

# АЎТОБУСАМ У ЯЛОЎКУ

Працяг са стар. 1

шасцю беларускія: Бондар, Новік, Ялоўскі з клічкай Воўк (мімаходзь успамінаецца вядомы амерыканскі пісьменнік з прозвішчам Воўк). Да вайны было ў Ялоўцы 180 хрысціянскіх і 120 яўрэйскіх сем'яў. Яўрэі вялі тут гандаль: 36 крамаў, рэстараны, кірмашы, усё, што вырашала аб местачковым характары Ялоўкі. Мястэчка Ялоўка адышло ў нябыт разам са сваімі яўрэямі, знішчанымі немцамі ў Свіслачы. Рэшту зрабіла „ўсходняя сцяна" — непранікнёная мяжа з Савецкім Саюзам.

У сшытку Вацлава Гайдучэні знаходжу яшчэ фрагмент вершыка па-беларуску:

*Грычанікі, грычанікі,*
*Ўсе жыды начальнікі,*
*беларусы у калхоз,*
*а палякі на вывоз.*

Гэта асколкі паэтычнай славы Шэршня сярод тутэйшага насельніцтва. Мой размоўца перакананы, што нават часопіс, у якім друкаваліся падобныя вершы, называўся менавіта „Шэршань".

Просіць ён мяне запісаць інфармацыю аб ксяндзу Семашкевічу — Янку Быліне і пра Каліноўскага (пра яго таксама ніколі не чуў), каб занесці іх прозвішчы ў свой сшытак.

Што ж, бушавалі і тут калісь страсці, пераходзячы з рук у рукі белы касцёл (пачалі яго будаваць католікі, пасля студзенскага паўстання скончылі пабудову праваслаўныя, ад якіх у сваю чаргу вярнулі яго сабе католікі пасля першай сусветнай вайны), запамяталася людзям нейкая камсамолка Маруся з Нязбодзіч, якая рубала стары крыж на шчэпкі і прыгода ксяндза Міхаляка ў Вейках. Падчас уцёкаў у 1939 годзе там перанялі яго мясцовыя „чырвоныя", адлупцавалі і абрэзалі з бакоў сутану, пакідаючы зад, які скруцілі ў хвост. Адпусцілі ксяндза са словамі: „Пайшоў, як сабака з хвастом".

Сёння сварыцца тут няма каму. Ялоўка дажывае свой век у цішыні. Нават сабакі тут не брэшуць на чужога, не тое, што ашчэраныя дварнякі падбеластоцкіх вулак.

Адна з каталічак расказала мне аб здарэнні ў тутэйшай царкве. Калі маці хацела вывесці сваё дзіця, якое плачма плакала, бацечка затрымаў яе, кажучы: „Астанься, гэта так прыемна, калі дзіця у царкве плача".

Дарэчы, менавіта тутэйшы праваслаўны святар, айцец Яўген Канаховіч з'яўляецца цяпер апорай беларушчыны. Гэта таксама знак часу. Заходжу да айца Яўгена хаця прывітацца, бо пара ўжо збірацца дадому.

Ля прыпынка я заглянуў яшчэ раз у краму, успомніўшы, што там прадаюцца газеты. На маё пытанне, ці хтосьці тут чытае „Ніву" пачуў у адказ: „Z prawosławnych gazet mamy tylko „Миж Бугом и Нарвою". Нейкі п'янаваты мужчына прабуе мяне пераканаць, што ён гаворыць „па-руску" не горш за мяне. Са сваім сябрам цягнуць мяне за краму „на келіха". Даволі ўжо маю гэтага абсурду ды іду на прыпынак і сустракаю двух мужчынаў, з якімі я сюды прыехаў раніцай. Заводзім гутарку, якая прадоўжваецца ўсё зваротнае падарожжа. Яны ў камандзіроўцы, працуюць у энергетыцы. Абодва вельмі сімпатычныя і цікавыя свету. Расказваюць пра мясцовасці і нешматлікія прадпрыемствы, якія мінаем па дарозе. Відаць, што мае спадарожнікі любяць гэтую зямлю і клапоцяцца пра ейную будучыню. Развітваемся ў Беластоку, з надзеяй, што нашыя шляхі яшчэ калі-небудзь скрыжуюцца.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# ДУРНІ І ПРАВАКАТАРЫ — ЗА ВІСЛУ!

Апошнім часам рэдактары вячоркі „Kurier Podlaski" арганізоўваюць у розных гарадах Беласточчыны г. зв. рэпарцёрскія дзяжурствы. Аднойчы адведалі і Гайнаўку. Сабраны імі матэрыял быў надрукаваны ў 76-м нумары ад 21 красавіка г.г. Маю ўвагу найхутчэй прыцягнуў загаловак заметкі „Lachy za Wisłę". Справа датычыць такога ж менавіта надпісу, які нехта зрабіў на сцяне будынка магазіна „Centrala Rybna". Яго, вядома, палічылі зняважальным для праваслаўных тут палякаў. З інтэрвенцыяй у гэтай справе звярнуўся да рэдактара нейкі Казімеж Леўчук. Ён нават сфатаграфаваў той жа надпіс. Мне напомнілася, што аб „Lachach za Wisłę" ўжо раней пісалася ў гайнаўскай газеце „Gościniec", у н-ры 1 ад снежня 1993 г. Аўтар заметкі „схаваўся" пад крыптанімам „zet".

Чаму я пра гэтае наогул пішу? Гэта ж дробязь, на якую не варта і звяртаць увагу, — скажа не адзін чытач. Я згодны з такім меркаваннем, але мне крыху забалела, што калі пару гадоў назад нехта ў самім цэнтры Гайнаўкі зрабіў на сцяне надпіс, які высылаў тутэйшых беларусаў у Беларусь, то ніхто і не заікнуўся ў польскамоўнай прэсе, што гэта зняважае аграмадную частку жыхароў горада. Не крыўдаваліся ні К. Леўчук, ні „zet". Магчыма, што нехта ўвекавечыў на плёнцы той надпіс. Мо варта было б яго зараз, дзеля „раўнавагі", апублікаваць?

А яшчэ, вяртаючыся да сп. Леўчука. Яго прозвішча надта „тутэйшае". Мне падумалася: вось, яшчэ адзін з „нашых", які хоча даказаць, што ён не „наш". Неяк дзіўна сябе адчуаю ў такіх выпадках. Не ведаю, смяяцца ці хутчэй спачуваць такім людзям? Усё ж, больш падыходзіла б, каб у справе надпісу „Lachy za Wisłę" інтэрвеніяваў нехта прозвішчам на -скі або -цкі. Вы, спадар Леўчук, відаць, не чулі, які погляд наконт людзей з прозвішчам закончаным на -ук прад'явіў нядаўна па тэлевізару гайнаўскі інжынер Кубацкі.

Сваёй дарогай, хто ж усё робіць тыя дурацкія надпісы? Ці не правакацыя нейкая гэта? Каму залежыць на выкліканню варожасці паміж жыхарамі горада, у якім і без гэтага жывецца зараз надта цяжка? Лепей будзе, калі яны самі накіруюцца за тую ж Віслу!

**ПЁТР БАЙКО**

# МОЦНЫ БЕЛАРУС

Нядаўна спаткаў я ў будынку нашай дубіцкай гміны аднаго знаёмага, В. Б. з Гайнаўкі, які вядомы на нашай зямлі як „выдатны дзеяч і беларускі актывіст" ды змагар за народную ўладу. Хаця прывітаўся ён са мною як трэба, але паглядзеў на мяне з такой нянавісцю, што я зусім не ведаў у чым справа. Неяк адразу наша размова зышла на тэму „Нівы" і тут гэты „выдатны дзеяч" рассакрэціў мне, чаму ў яго столькі злосці да мяне. Я ж карэспандэнт „Нівы", а гэты тыднёвік, паводле яго — „бруковец", бульварная газета, якую ён у рукі не бярэ (хаця змест, як аказалася, ведае добра). Амаль крыкам заявіў ён, што ўсіх рэдактараў ахвотна паслаў бы на Салаўкі або ў Сібір. Прабаваў я спыніць ягоны маналог і спытаўся: то які з цябе беларус? А ён на тое: з мяне моцны беларус, шчыры патрыёт. „Ніва" — крычаў далей — скампраметавала праўдзівых патрыётаў (сталіністаў меў ён, відаць, на ўвазе). Але калі я звярнуў яму ўвагу, што наш тыднёвік гэтымі праблемамі ўвогуле апошнім часам не займаўся, пачуў у адказ, што калі журналісты не займаліся нашымі героямі, дык таксама іх кампраметавалі. Пра герояў трэба пісаць, успамінаць, даваць прыклад іншым. Зразумела, што В. Б. думаў перш за ўсё пра сябе, бо ведае, што пра яго, як шчырага сталініста, ніхто цяпер добра не напіша.

Спосаб мышлення В. Б. надта мне напамінаў змест ліста „дэлегата Гайнаўскай зямлі", друкаванага на апошняй старонцы „Нівы" н-р 27 за мінулы год. Магчыма, што гэта ён быў яго аўтарам.

Спадара В. Б. ведаю здаўна. Заўсёды быў ён крывадушнікам гатовым лізаць рукі кожнаму царыку, які пра нешта вырашае. Быў час, калі арганізаваў нейкія фэстыны і конкурсы, у якіх загадзя ўсе ведалі, хто будзе пераможцам; арганізаваў гурткі БГКТ, якіх дзейнасці ніхто і ніколі не бачыў. От, былі сабе на паперы сотні членаў і актывістаў. Тады шмат пісалі пра такіх арганізатараў культурнага жыцця Беласточчыны — таксама ў „Ніве". Узнікаў міф магутнай актыўнасці нашага асяроддзя. Цяпер, калі „Ніва" піша толькі пра тое, што існуе сапраўды, усе г.зв. моцныя беларусы пападалі ў паніку і ўсю нянавісць накіравалі на „Ніву", асабліва таму, што не паказвае свету такога, як у казцы, а іх — як прыгожых, маладых, высакародных князёў. Гэтая самая заўвага кранае таксама асветных дзеячоў. Людзям такім, як В. Б., час затрымаўся недзе у 50-х ці 60-х гадах і тое, што газета імкнецца паказваць рэчаіснасць такой, якой яна ёсць у сапраўднасці, ім здаецца злачынствам, а журналісты і карэспандэнты павінны за гэта апынуцца ў сібірскіх канцлагерах. Я нават не спрачаўся з „моцным беларусам", бо ведаў, што, напэўна, яго не пераканаю.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# ЧАС ВЫБАРАЎ

Перад намі гарачы палітычны чэрвень, хаця нельга сказаць, што май быў халодны. Набліжаюцца выбары: прэзідэнцкія ў Беларусі і самаўрадавыя ў Польшчы. Над Віслай пасля 19 чэрвеня праўдападобна нічога не зменіцца, але ў Беларусі ўсё можа здарыцца. Хаця ўвесь дзяржаўны апарат і сродкі масавай інфармацыі працуюць на карысць „гаспадзіна" Кебіча і нішто не паказвае, каб хтосьці з беларусаў — Пазьняк ці Карпенка — дасягнулі перамогі, але... хто ведае; кожны народ калісь прачынаецца, магчыма прыйшоў час і на беларусаў.

У Польшчы гэтым часам узнікла сапраўды парадаксальная сітуацыя. Партыі левага накірунку, а дакладней левага паходжання, якія сёння знаходзяцца пры ўладзе, дэкларуюць гатоўнасць прадаўжаць пабудову новага эканамічнага парадку — капіталізму. „Салідарнасць", якая, менавіта, пару гадоў таму назад змагалася таксама за капіталізм, цяпер рашуча патрабуе вярнуць сацыялістычныя прынцыпы ў галіне сацыяльнай і эканамічнай палітыкі. Ад камуністычных прафсаюзаў адрознівае яе толькі тое, што імкнецца захаваць клерыкальна-нацыянальныя вартасці ў сферы надбудовы.

Аслупянелы народ тым часам зусім не ведае, што думаць. Усюды відаць, як усялякія індывіды пераўтвараюцца ў мільярдэраў, не ўкладаючы ў працэс свайго ўзбагачэння ні спецыяльнай працы, ні грошай і нічым не рызыкуючы.

У гэты ж час маланкава ўзрастае лік людзей, якія апынуліся на мяжы жабрацтва, расчараваных да ўсіх і ўсяго.

Хуткімі тэмпамі ўзрастае колькасць злачынстваў, а ў тэлебачанні часцей паказваюць застрэленых паліцыянтаў, чым жывых. А калі паказваюць гэтых апошніх, дык толькі скарумпаваных. Складаецца ўражанне, што добрасумленным ахоўнікам парадку амаль немагчыма пражыць у сённяшні час.

Палітыкі — як вядома — таксама любяць да сваіх гульняў ангажаваць грамадства. Фокусы, якія чаўпуць толькі ў сваім асяроддзі, робяцца нават ім самім надта нуднымі. Таму час ад часу арганізуюць спектакль з актыўным удзелам публікі, які называецца — „выбары". Найбольш каларытнай бывала заўсёды „выбарчая кампанія". Натоўп камедыянтаў падаецца ў народ і кожны з іх абяцае, што калі толькі ён займе месца ў адпаведным крэсле, дык весела будзе прынамсі чатыры, а можа нават і цяць гадоў. Цудоўна робіцца на душы, калі чалавек падумае, што неўзабаве ўсё гэта пачнецца. У нашым „тутэйшым" запаведніку таксама можа быць цікава. Праблемаў не павінны мець „нашыя" выбаршчыкі ў Бельску і Гайнаўцы, дзе беларусы, левыя, праваслаўныя, яцвягі і ўсе іншыя „тутэйшыя" нацыянальнасці стварылі супольныя камітэты з інтрыгуючымі назвамі: „koalicyjny", „społeczny". Нягледзячы на назвы камітэтаў, там галасаваць і так будуць на праваслаўную ці каталіцкую „курыю", паводле крытэрыяў існуючых ужо некалькі стагоддзяў. Іншая справа ў Беластоку, дзе за душы беларуска-праваслаўнага выбаршчыка будуцуь змагацца прынамсі два камітэты — „левых" і „праваслаўных". На спіску Выбарчага камітэта праваслаўных ёсць некалькі беларускіх кандыдатаў, вядома таксама, што ў структурах левай кааліцыі праўдападобна будуць прадстаўнікі БГКТ і шмат „нашых хлопцаў" з іншых арганізацыяў. Шчыра спачуваю „нашым" выбаршчыкам. Ранейшыя магчымасці выбару для „тутэйшага" электарату паміж беларусамі і левымі заўсёды канчаліся пройгрышам першых.

Цяпер справа больш складаная, бо на каго, напрыклад, мае галасаваць праваслаўны паляк веруючы ў несмяротнасць ідэі вялікага Валодзі Ульянава? Аддаў бы свой голас на „левых", але сярод іх агромная большасць гэта шчырыя і заангажаваныя патрыёты канкурэнтнай „курыі", якія толькі па чыста прагматычных прычынах заблыталіся ў левыя рады. Каталіцкае асяроддзе ў Беластоку ў гэты раз ідзе аб'яднана як ніколі, плячо ў плячо — ЗХН, КПН, РдР, „Салідарнасць", „Радзіна Каталіцкая", „Вспульнота Польска", Стронніцтво народовэ і яшчэ з дзесятак іншых, не менш патрыятычных арганізацыяў.

Беларускія кандыдаты, якія апынуліся на спіску Камітэта праваслаўных: Алег Латышонак, Юрка Каліна, Антон Мірановіч, Юрка Хмялеўскі, Пятро Крук — гэта амаль усё людзі маладыя, але з немалым палітычным дасведчаннем. Цікава было б паслухаць іх выступленні, і ўжо як райцаў беластоцкай камуны пабачыць іх у канфрантацыі з існуючай палітычнай рэчаіснасцю Беластока. Але ці будзе гэта магчымае?

Цікава, каму паверацы цяпер „нашы" выбаршчыкі?

**ВАСІЛЬ КУРГАНОВІЧ**

# НАШЫ КАРАНІ

## LXV. АДЗІН З ВЯЛІКАЙ БЕЛАРУСКАЙ ДРУКАРСКАЙ ТРОЙЦЫ

Велічны ўклад у развіццё друкавання кніг Свяшчэннага Пісання і іх здабленне ўнёс выдатны беларускі вучоны і асветны дзеяч Георгій (Францішак) Скарына. Як вядома, у 1517 г. у чэшскай Празе ён выдаў „Псалтыр" і такім чынам даў пачатак беларускаму кнігадрукаванню і беларускай кніжнай графіцы. Невядомыя па імю мастакі пад кірункам і наглядам самога першадрукара ўзбагацілі ўсе 25 яговых кніг выдатнымі ілюстрацыямі. Скарынінскія выданні доўгія дзесяцігоддзі, а нават стагоддзі натхнялі і служылі ўзорам для многіх усходнеславянскіх і іншых майстроў выдавецкай справы.

Адным з першых прадаўжальнікаў Скарынінскай справы ў пашыранні Слова Божага сярод праваслаўных народаў так, каб яны „чтучы маглі лепей разумеці", а кнігі Свяшчэннага Пісання ўжо сваімі нагляднымі ілюстрацыямі ўзмацнялі ў чытачоў настрой набожнасці, былі беларускія друкары **Іван Фёдараў, Пятро Мсціславец** і **Грынь Івановіч**. Кожны з іх унёс настолькі важкі ўклад у развіццё выдавецкай культуры праваслаўных кніг, што неабходна прысвяціць яму асобны артыкул.

Друкар **Іван сын Фёдара** (таму ў Маскве ён зваўся Іванам Фёдаравым, а на Украіне — Іванам Федаровічам) нарадзіўся каля 1510 г., як мяркуюць вучоныя, на Міншчыне. Паходзіў са збяднелай беларускай шляхты (баярства) з неймаверна разрослага роду Рагозаў герба Сьрэнява. Некаторыя даследчыкі лічаць, што ён у 1532 г. закончыў са ступенню бакалаўра Кракаўскі універсітэт. Дагэтуль невядомымі шляхамі трапіў у Маскву, там быў рукапалажаны ў дыякана і служыў у царкве імя Міколы Густынскага. Вылучаўся сваёй адукаванасцю, зацікаўленнем кніжнай справай і хутка прыстаў да пачынальнікаў друкарства ў Маскве.

Працы І. Фёдарава і яго сябры Пятра сына Цімафея, які прыбыў з беларускага Мсціслаўля, былі прыкмечаны, і ў 1563 г. ім абодвум цар Іван IV і мітрапаліт Макарый даручылі заснаваць друкарню і выдаваць богаслужэбныя кнігі, на гэта „от царских сокровищ" яны атрымлівалі значныя сродкі. Ужо ў 1564 г. беларускія друкары выпусцілі „Апостал" — першую датаваную кнігу ў Маскоўскай дзяржаве. Аднак далей яны не змаглі працаваць у Маскве: памёр выдатны царкоўны дзеяч мітрапаліт Макарый, а цар Іван IV цалкам захапіўся ўстанаўленнем і ўмацаваннем свае самадзяржаўнае ўлады. Друкароў з прычыны зайздрасці пачалі абвінавачваць у ерасі. Яны палічылі, што лепш будзе падацца ў Старабеларускую дзяржаву (Вялікае княства Літоўскае). Ад пасланага ў 1561 г. у Маскву гетманам Рыгорам Хадкевічам манаха Іаакіма-Ісаіі Камянчаніна ім было вядома, што ўладальнік Заблудава жадае „выдати тиснением печатным нашему народу христианскому русскому литовскому да и русскому московскому да и повсюду всем православным христианам" кнігі Свяшчэннага Пісання, — як інфармаваў гетман у пасланні, даручаным а. Іаакімам.

У Заблудаве ў даволі хуткім часе І. Фёдараў з сябрам пры актыўным удзеле брацціі Супрасльскага манастыра, асабліва дзякуючы яго багатаму кнігазбору, абсталявалі друкарню і ў 1569 г. з яе выйшла першая на Беласточчыне друкаваная кніга — „Евангелле вучыцельнае". У ёй былі змешчаны выбраныя месцы з Евангелля, іх тлумачэнні, павучэнні, пропаведзі, у тым ліку „Слова на Ушэсце" — „залатавуста Зямлі Беларускай", уладыкі Кірылы Тураўскага (XII ст.). У асноўным кніга прызначалася для навукі дзяцей.

Пасля выдання „Евангелля вучыцельнага" П. Мсціславец забраў сваю частку друкарскага абсталявання і падаўся ў Вільню, дзе заснаваў друкарню ў заможных праваслаўных мяшчан Мамонічаў. Фёдараў жа разам з чаляднікам з Заблудава Грынем (Рыгорам) Івановічам, які дапамагаў друкарам, выдаў у 1570 г. „Псалтыр з Часаслоўцам", у канцы кнігі змясціў „Пасхалію" (каляндар рухомых праваслаўных святаў), у якіх заўважаецца ўплыў „Пасхалій" з „Малой падарожнай кніжкі" Скарыны. На жаль, гэта была апошняя кніга, што выйшла ў Заблудаве. Пасля Люблінскай уніі (1569 г.), у выніку якой Старабеларуская дзяржава, між іншым, страціла на карысць Польскай Кароны Падляшша і Правабярэжную Украіну, у гетмана Хадкевіча прапала зацікаўленне да выдавецкай справы, і ён запрапанаваў Фёдараву даходную пасаду ў сваіх аграмадных маёмасцях. Аднак друкар адмовіўся, як потым пісаў: „Не удобно ми бе ралом, ни же семен сеянием время живота своего съкращати, но имам убо вместо рала художъство наручных дел съсуды, вьместо же житных семен духовныя семена по вселенней разсевати". У хуткім часе гетман Р. Хадкевіч памёр (12.11.1572 г.), Фёдараў з Івановічам неўзабаве падаліся ў Львоў і там заснавалі першую на ўкраінскіх землях друкарню.

Львоўская друкарня ўжо ў 1574 г. выпусціла „Апостал" і першы на ўсходнеславянскіх землях буквар — „Азбуку". Неўзабаве друкароў запрасіў вядомы апякун праваслаўнай Царквы і праваслаўнай духовай культуры князь Канстанцін (Васіль) Астрожскі ў сваю сядзібу Астрог на Валыні. Па яго жаданню яны там заснавалі друкарню і выпусцілі новае папоўненае выданне „Азбукі" і „Псалтыр з Новым Запаветам", затым у 1580—1582 гадах выдалі выдатнейшы твор — першую поўную славянскую Біблію кірылічнага друку, славутую „Астрожскую біблію", якая сталася дзейснай зброяй праваслаўных у іх змаганні супраць націску каталіцызму і выдатным дасягненнем праваслаўнай багаслоўскай і выдавецкай культуры.

Памёр Іван Фёдараў (Федаровіч) у 1583 г. у Львове, пахаваны ў Свята-Ануфрыеўскім львоўскім манастыры, у якім з 1977 г. дзейнічае музей імя гэтага заслужанага беларускага друкара, заснавальніка ўкраінскага кнігадрукавання.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

*МІХАСЬ АНДРАСЮК*

**Белае Падляшша**

Учапілася за сэрца
дзікім вінам Падляшша,
зялёнаю тугою
танцуе карагод.
Над рэчкаю за вёскай
ў далоні ліпень пляшча
і цэдзіцца праменнем
крадзены сонцу мёд.

Белая, белая, белая нявіннасць,
Белая, белая, белая Русь.
Слоў крышталёвых шукаю і гімнаў
і напаіць цябе імі баюся.

Як добра мець пад сонцам
кусок зямлі ва ўласнасць,
дзе ходзіць полем бацька,
а мо ўжо толькі цень.
І сее з небасхілаў
ліпеньскі мёд і яснасць.
Здзіўляюцца анёлы,
што так яму расце.

Белае, белае, белае Падляшша,
зялёная, зялёная, зялёная Русь.
Сціш нада мною і сэрца насцеж
адкрыла, а я ўваходзіць баюся.

* * *

лёгка судзіць упаўшых на калені
нам што высока носім
галовы і грудзі
яблык мудрасці сціскаючы ў жменях
судзім
задаць пакуту можам і прабачыць
угару далонь уніз далонь
падняць мы можам
у пляча ляпнуць
дашчэнту абсабачыць
як лёгка
толькі сцеражы нас Божа

**ворыва**

разрэзаў брытвай жыватворнай
зямлі заклятыя кайданы
і вызваліў румянасць хлеба
з аковаў чорнага нябыту
аж з захаплення у далоні
пляснуў сусвет
і промням збегаў
злажыць удзячны пацалунак
за жменю новага жыцця
і жыта

# Хто ловіць рыбу ў мутнай вадзе?

У Орлі на 229 вучняў беларускай мове вучыцца 143 дзетак. У школе працуюць дзве беларусісткі. Беларускай мове навучае таксама русістка. Два месяцы таму захварэла настаўніца Анна Шыманская і пайшла на лекарскі водпуск. Усё было б „як трэба" — але?..

**Гаворыць дырэктар школы:**

— У канцы лютага я напісала ў Куратэрыю асветы з просьбай высветліць справу платных замяшчэнняў для настаўнікаў. У пісьме не згадвалася, што справа датычыць беларускай мовы. Адказу не было. Пасля тыдня пазваніла я сама і даведалася, што платных замяшчэнняў няма (гэта было 4 сакавіка), а 16 сакавіка атрымала я пісьмо ад куратара (адрасаванае ўсім школам), што дырэктары павінны самі як найтанней арганізаваць працу школы. Калі здарыцца замяшчэнне (не даўжэйшае чым тыдзень — Г. К.) трэба выкарыстоўваць святліцу, бібліятэку. Заявіла я таксама Тамары Русачык (візітатару па беларускай мове), што з гэтых 24 гадзін, якія мела Анна Шыманская, толькі шэсць будзе рэалізавацца. У некаторых класах асталося па 2 гадзіны беларускай мовы, а ў некаторых 1 гадзіна.

Пані дырэктар расказала мне таксама як у класе IV „а" не хацелі вучыцца гэтага прадмета. Асабіста хадзіла і намаўляла, але не была ў сілах змяніць пэўныя справы.

— Калі не вучацца нават дзеці настаўнікаў, то што тут гаварыць пра сялян. У нас нават некаторыя настаўнікі не купляюць беларускіх календароў ці „Нівы". І дзеці цяпер вельмі „разумныя" — ведаюць усе свае правы, што можна праігнараваць неабавязковы прадмет, — кажа пані дарэктар.

Калі я сказала, што

**бацькі заявілі, што ліквідуецца беларуская мова ў Орлі,**

пані дырэктар шчыра здзівілася:

— Немагчыма. Я ў гэта не веру. У Орлі амаль усе бацькі прыходзяць толькі тады, калі прыносяць заявы, каб вызваліць дзяцей ад беларускай мовы. Найбольш іх вучыцца з вёсак. А вясковыя не ўмешваюцца. І цяпер навучанне гэтай мовы нікога не цікавіла б, каб не асоба Янкі Д. А так ніхто нават не ведаў бы, што ў нас дзеецца, — кажа пані дырэктар.

У мінулым годзе ў Орлі былі групавыя скарачэнні настаўнікаў. Адышло на „засілак" 5 настаўнікаў, у тым ліку і беларусістка пасля 20-гадовага стажу працы. Анна Шыманская атрымала бальнічны бюлетэнь да 3 мая (і праўдападобна будзе ў водпуску да канца года). Дырэктар вырашала тады падзяліць гэтыя гадзіны паміж настаўніц, якія вучаць беларускай мове. Так было б танней для школы. Калі паявілася асоба Янкі Д. — беларусіста, былога дырэктара зліквідаванай суседняй школы, пані дырэктар прыгадала аб звольненай беларусістцы. Аднак безупынна званілі тэлефоны з Кураторыі і БГКТ, каб узяць на працу Янку Д.

— Сычэўскі званіў безупынна, па два разы ў дзень, каб узяць пана Д. і пана Д., — кажа пані дырэктар.

— Вельмі добра, што ўрэшце

**прынялі беларусіста**

— кажа настаўніца Анна Шыманская, бо пэўна і далей была б адна гадзіна ў тыдзень у некаторых класах. Я высока ацэньваю кваліфікацыі і заангажаванасць у беларускія справы Янкі Д., — кажа настаўніца Анна Шыманская.

— Вучыць беларускай мове — гэта цяжкая праца. Мы мусім працаваць намнога больш, чым настаўнікі іншых прадметаў. А цяпер я маю надзею, што Янка Д. справы не заваліць, — прадаўжае А. Шыманская.

Таксама пры нагодзе высветлілася праблема „Нівы". У мінулым годзе Анна Шыманская арганізавала падпіску газеты і было тут аж 80 падпісчыкаў. У гэтым годзе, „зважаючы на цяжкі матэрыяльны стан", прыходзіць толькі 16 „Нiў". Зараз жа Янка Д. заявіў, „што „Ніва" непатрэбная; бо ў ёй няма чаго чытаць". Гэта што найменш здзівіла настаўнікаў.

— Дзеці ахвотна чытаюць, асабліва „Зорку", — аргументавалі настаўнікі.

Анна Шыманская, растлумачыла мне, што Янка Д. напэўна даўно не меў кантакту з гэтай газетай, і пэўна не ведае яе зместу.

Асабліва развесяліла мяне найважнейшая асоба са школы калі сказала, што „ў „Ніве" абліваюцца толькі чырвонай фарбай, сварацца з салідарнікамі і БГКТ". Няхай і так будзе, падумала я і нават не прабавала нічога тлумачыць. З міфамі не варта змагацца.

**У Кураторыі**

дырэктар аддзела кадраў, пані Хыжы, заявіла мне, што за справу 1 гадзіны беларускай мовы на працягу 2 месяцаў адказвае толькі кіраўніцтва школы ў Орлі. Аб праблемах навучання беларускай мовы ў Орлі яна даведалася толькі тады, калі паявілася кандыдатура Янкі Д.

— Мы намякалі, што лепш прыняць спецыяліста, беспрацоўнага былога дырэктара, але аб кандыдатуры год таму звольненай настаўніцы, нічога не ведалі. „To jest wasze środowisko i sami musicie załatwić te sprawy. My nie mamy tu nic do powiedzenia", — кажа дырэктар аддзела кадраў, пані Хыжы з Беластока.

Спадарыня Тамара Русачык па тэлефоне сказала, што справы Орлі не ведае.

**Настаўнікі з Орлі**

былі абураныя тым, што ў Кураторыі і БГКТ цікавяцца толькі кадравымі справамі. Хацелі б урэшце стабілізацыі — беларускую мову зрабіць абавязковым прадметам.

— Нам „гара" накінула гэтую добраахвотнасць і мы не можам з ёю справіцца.

Заявілі яны, што трэба шукаць прычыны, бо нехта „тут шнырыць". Напрыклад, у Бельску ў адной школе, якраз настаўнік геаграфіі пайшоў на лекарскі водпуск і грошы на замяшчэнне былі адразу. А тут, каб не справа Янкі Д., навучанне беларускай мове ў Орлі ў тых класах, у якіх вучыла пані Шыманская, было б пэўна на нейкі час спыненае, а магчыма зусім ліквідаванае.

Адна гадзіна ў тыдзень — гэта ўжо пачатак вядомага ўсім працэсу.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

*ПАЎЛЮК ПРАНУЗА*

### МАМІНЫ РУКІ

Маміны рукі самыя лепшыя:
Няньчылі, гушкалі, лашчылі першыя.

Маміны рукі сардэчныя, смелыя,
Маміны рукі самыя ўмелыя.

Маміны рукі — рукі шчаслівыя.
Маміны рукі заўсёды цярплівыя.

Маміны рукі самыя светлыя,
Маміны рукі самыя ветлыя.

*МАР'ЯН ДУКСА*

### ШЧАСЦЕ

Я маляваць буду
ўсіх па парадку.
Вось намалюю
я маму спачатку.
З ёй і сябе я
побач пастаўлю.
Потым я сонейка
зверху дабаўлю.
Выведу ўдалеч
бярозавы шлях,
птушак, жывёл
размяшчу па баках
з россыпам кветак
і гуртам дзяцей,
з безліччу
самых найлепшых людзей.
З добрымі тварамі
людзі на сцежках.
Шчасце —
калі расцвітаюць усмешкі.





*Спевакі з нараўскага „Пронару".* **Фота С. Грынявіцкага**

*АЛЕГ ЛОЙКА*

## ВЯСЁЛЫ АГАРОД

*(працяг з папярэдняга нумара)*

### СЭЛЬДЭРЭЙ

Сельдэрэй
Ні ў чым не вёў рэй,
Бо як чужаземец
У нас сельдэрэй.

### ЛЕБЯДА

Зачарнела бяда —
Узышла лебяда.
Як аполем з грады,
Не дапусцім бяды.
Прэч з грады бадылі,
Каб гуркі ўсе цвілі!..

### РАВЕНЬ

У равеня
Шмат клапот,
Каб смачнейшым
Быў кампот.

### МАЦЯРДУШКА
(або Мар'янак)

Ой, спрачаўся цэлы ранак
З Мацярдушкаю Мар'янак:

— Не хачу абдымкаў-дужкаў,—
Гаварыла Мацярдушка,—

— Ты — дзяцюк, а я — кабета:
Не парушвай этыкету!..

І ці ж я ў тым вінавата,
Што цябе мне зводным братам

Хтось падсунуў, можа п'яны,
І ўжо я — не я: Мар'янак?!

Самазванец!.. Ілжэкветка!..
Свет ілжы не бачыў гэткай!..

І палез Мар'янак у дужкі
Пасля назвы мацярдушкі!..

### РЭПКА І БРУЧКА

Сябравалі рэпка з бручкай —
Лісце ў лісце, ручка ў ручку.
Сябравалі б, можа, далей,
Каб у суп іх не кідалі.

### ТРУСКАЛКІ

А за што трускалкам
Чырванець на свеце,
Салодкім, не даўкім,
Любым усім дзецям?!

### ЧАСНОК

Як сёстры туляцца
Ля сэрца яго долькі,
І ён не журыцца
Ніколі і нікольки.

Сніць жаніхом сябе
Каля вянка цыбулі
У касе, падвешанай
У запечку бабуляй.

### БОБ

Хмурыла калісьці гора
Земляроба потны лоб,
І на долы і ў разоры
Слёзы падалі, як боб.

А цяпер ніхто не плача
Ні на сотках, ні на дачы,
І не ўсходзіць боб лядачы,
Вывеўся дарэшты боб!..

### ПЯТРУШКА

Моркву любіць зайчык,
А гарошак — птушкі,
А сын Мікалайчык —
Бульбачку з пятрушкай!..

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### „Не хадзіце ў госці без запрашэння" або Мышка ў падарунак

Аднойчы забрыла мышка Пік-Пік на кухню, на свае заўсёднае „паляванне". І раптам бачыць — на халадзільніку стаіць торцік. Запакаваны ў прыгожую каробку, ды яшчэ стужачкай перавязаны!

„Як не сорамна! — абурылася мышка на маму. — Купіць торцік і не павядаміць МНЕ! Каб я выпадкова сюды не зайшлася, так і не даведалася б пра такую смакату! Самі ўпотайкі хацелі з'есці! Ну, не, за такую здраду я проста абавязаная іх усіх пакараць!"

І мышка пачала ўскарасквацца на халадзільнік, карыстаючыся сеткай на яго задняй сценцы. Светлая і ясная мэта, як вядома, натхняе і надае сілы. Таму Пік-Пік ужо хутка сядзела каля прыгожай каробкі і прынюхвалася да салодкага паху. „Абавязкова трэба так трапіць у каробку, каб звонку нічога не было заўважана", — вырашыла мышка. Задача была цяжкая, але Пік-Пік і з ёю справілася: прагрызла знізу дзірачку-шчылінку і ўшчымілася ўнутро. Вядома, там аказаўся торцік. Мышка з вялікім задавальненнем і прыемным пачуццём помсты пачала набіваць сабе жывоцік. Зразумела, пастаралася яна, каб ні крышачкі не пакінуць ад ласунку. Бедны мышчын жывоцік ледзь не лопнуў. „Цяпер трохі адпачну, — падумала Пік-Пік, — і вылезу з каробкі. Вось здзівяцца мама, тата, Веранічка, Пепіта і Максімка, калі ўбачаць, што каробка пустая!"

Так мышка думала-думала і заснула. Тым часам на кухню прыйшла прыгожа апранутая мама, узяла з халадзільніка каробку і паклікала тату і Веранічку:

— Хутчэй збірайцеся! Цёця Надзя нас ужо чакае!

Як вы ўжо здагадаліся, сям'я збіралася ў госці, а торцік павінен быў быць падарункам. Каб мышка пра гэта даведалася, яна, канечне, не стала б есці гэты торцік... Калі ж гэта быў бы занадта неверагодны для ласуні ўчынак, мышка, па меншай меры, паасцерагалася б засынаць у такой каробцы... А так давялося ёй прачнуцца ў незвычайных абставінах: крышку з каробкі знялі, мышку асляпіла яркае святло ад лямпы, што вісела над сталом, каробка стаяла на стале, а вакол стала сядзелі розныя незнаёмыя дзядзі і цёці, у тым ліку і мама з татам. Калі замест торціка ўсе ўбачылі ў каробцы нешта зусім іншае, мама збялела, штурхнула тату нагой пад сталом, каб ён маўчаў, і загаварыла:

— А гэта наш маленечкі сюрпрыз... У гонар нядаўняга свята гумару...

— Вой, якая цудоўная цацка! — усклікнула цёця Надзя, якая і адкрывала каробку, — адразу відаць, што імпартная!

— Якая тоўсценькая! — зашумелі госці, абмяркоўваючы падарунак.

— І вусікі, як сапраўдныя! І хвосцік!

— А можа, у яе ўнутры нейкі сюрпрыз?

Мышка сядзела, скамянеўшы, з разяўленай пыскай і вылупленымі вочкамі. Толькі б якому боўдзілу не ўздумалася паглядзець, што ў яе ў жываце! Але госці хутка забыліся на „сувенір", і цёця Надзя паставіла нерухомую мышку на палічку. Мама час ад часу пасылала да гэтай палічкі жахлівыя позіркі.

Давялося Пік-Пік сядзець і цярпліва назіраць, як паглынаецца розная смачная ежа. Нарэшце, усе наеліся, напіліся, пачалі збірацца дадому. „Няўжо мяне пакінуць тут?" — з бояззю думала мышка. — „Мама моцна раззлавалася, возьме ды і пойдзе без мяне... Што ж рабіць?" На шчасце, у агульнай мітусні Пік-Пік пашанцавала незаўважна спусціцца з паліцы і пракрасціся ў калідор. Там мышка залезла ў татаву сумку і прыціхла.

Калі мама, тата і Веранічка вярнуліся дадому, дзе іх чакала бабуля з Максімкам і Пепітай, мама нарэшце выказала, што яна думала пра мышэй і пра тых мужыкоў, што не могуць тых мышэй вытурыць з хаты.

— Нічога, няхай цяпер пасядзіць у цёткі Надзі, пагаладае!

Пік-Пік сядзела ў татавай сумцы і трэслася ад страху: а раптам яе зараз заўважаць? Тата ж пагразіўся, што аддасць яе дактарам для нейкіх вопытаў...

Толькі калі ўсе ляглі спаць, небарака асмелілася вылезці з сумкі і кінулася ў сваю норку. І пасля яшчэ тры дні сядзела там бязвылазна, харчавалася толькі сваімі прыпасамі.

Затое цёця Надзя чамусьці перастала запрашаць маму і тату ў госці...

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**

**АДГАДАНКА „ПАДАРОЖЖА"**

**Лагагрыфы.** 1. *Рака — ранка.* 2. *Рэкі — грэкі.* 3. *Байка — Байкал.* 4. *Нерон — неон.* 5. *Пара — парта — Спарта.* 6. *Куб — клуб.* 7. *Гусі — гуслі.* 8. *Піка — пік.* 9. *Рабіны — драбіны.* 10. *Рыф — грыф.* 11. *Вугал — вугаль.* 12. *Полюс — плюс.* 13. *Рым — Крым.*

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

## (27)

*працяг з папярэдняга нумара)*

### Лагагрыфы

Лагагрыф — граматычная загадка, у якой зашыфраванае слова не называецца — аб ім толькі гаворыцца, і неабходна ўставіць або выкінуць указаную літару ці склад, каб па дадзеных параметрах прачытаць слова, напрыклад *Куба — куб:*

Я — востраў, і мяне народы
Назвалі востравам Свабоды.
Цяпер канчатак адкідай —
І ў геаметрыі шукай.

Адгадайце наступныя лагагрыфы:

1. Бачыць ты прывык мяне цякучай.
Н устаў — і стану я балючай.

2. Нясём ваду мы ў мора год за годам.
Дадай нам г — і называй народам.

3. Калі мяне ты зможаш прачытаць —
З табою пасмяёмся разам.
Калі мне л захочаш ты дадаць —
Я стану возерам адразу.

4. Адзін са старажытных катаў —
Вядомы рымскі імператар.
Адкіньце р — тады адразу
Ён будзе толькі лёгкім газам.

5. Нас двое. Толькі зычны гук дадай —
І ў школе месца я займу па праву.
Дадай яшчэ адзін — тады шукай
На карце старажытную дзяржаву.

6. Я — прасторавае цела,
Нескладанае з натуры.
Л дадай цяпер мне смела.
Бачыш — я ўжо Дом культуры.

7. Мы рэзкім голасам крычым
І кавыляем так камічна.
Уставіш л — і загучым
Тады на дзіва меладычна.

8. З а была я добрай зброяй
У народаў з даўніх пор.
А адкінь — і я гарою
Сярод іншых стану гор.

9. Я — дрэва, ягады на мне
Пад восень палымнеюць.
Дадай ім д, прыстаў к сцяне —
Уверх па мне палезуць.

10. У акіяне я бываю
І караблі там разбіваю.
Адну мне літару дадай —
Мяне між птушак ты шукай.

11. Я з мяккім знакам пад зямлёю,
Мяне завуць каменны, буры.
Адкінь яго — перад табою
Геаметрычная фігура.

12. З **о** — арктычны я і антарктычны,
А без **о** — я знак матэматычны.

13. На карце Еўропы, мой дружа, шукай
Сталіцу паўднёвай краіны.
Адну толькі літару ты ёй дадай
І знойдзеш па поўдні Украіны.

*(працяг у наступным нумары)*

<u>Беларускія народныя гульні</u>

# ЯВАР

Збіраюцца дзеці 8—11 год гуртом, выбіраюць дваіх „на вароты". Усе бяруцца за рукі, як у карагодзе, і ходзяць васьмёркай, паднімаючы рукі ўгару, каб можна было прайсці. Пры гэтым спяваюць:

Явар, яваравы людзі,
Што вы тут рабілі?
— Мы рабілі моста
На пана староста,
Цешычкамі запускалі,
Аднаго нам астаўлялі.
Перша капуста,
Другая распуста.
Першая малявана,
Друга затрымана.

На слове „затрымана" запыняюць апошняга і пытаюцца: „Ты куды ідзеш — управа ці ўлева?" (або на выбар называюць два розных колеры, два дрэвы і г.д.). Затрыманы ў залежнасці ад адказу становіцца за тым ці іншым „на варотах". Потым дзве групы, якія атрымліваюцца ў выніку апытання, мераюцца сілаю. На гэтым гульня канчаецца.




# ШАРАЧОК НА ШАШЫ

Машына шпарка бегла па шашы. Шапацелі шыны: шы-шы-шы. Шум шушукаўся за шклом.

Штосьці шэрае шась на шашу. Шафёр сціснуў машыну. На шашы — шустры шарачок.

— Што хочаш, зай?

— Шафёр, я нашу школу шукаю.

Шкада шафёру шарачка, запрашае:

— Марш у машыну!

Шарачок — да шафёра, шэпча:

— Школу шукаю...

— А што ў мяшку цягнеш? — спытаў шафёр.

— Шышкі, шыпшыну, шчаўе, шашкі са шкельцаў.

— Шарачок, у школу трэба насіць кніжкі, сшыткі...

— У нашым шалашы сшыткаў няма.

— У школе, зай, атрымаеш. Вывучышся і напішаш мне, з якой літары пішуцца „школа", „шаша".

— Напішу, шчодры шафёр, — шаптаў шчаслівы шарачок.

Машына шалёна шугала па шашы. Зай-шарачок спяшаўся ў школу.

**УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ**

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

— Чаму ты не адказваеш? — пытае настаўнік Міколку. — Што, вельмі цяжкае пытанне?

— Не, не пытанне. Адказ.

* * *

— Чаму ты плачаш, малы?

— Мама сказала бацьку, што ён слон. Бацька адказаў маме, што яна курыца.

— Ну і што?

— А хто ж тады я?!

* * *

Запытаў незнаёмы ў малога хлапчука:

— Скажы, калі ласка, дзе ў вас аптэка?

Хлопец здзіўлена пагледзеў на яго і сказаў:

— Там, дзе і была.

* * *

Настаўнік запытаў у вучня:

— Пятро, калі я кажу: „Я хворы", — які гэта будзе час?

— Цудоўны час! — адказаў Пятро.

* * *

Малы хлопчык да маці:

— Мама, у пані Кавальскай ужо дзевятае дзіцятка!

— А як яна сябе адчувае?

— Яна нічога, добра, але іхні бусел, мабыць, ужо ледзь дыхае...

**ЯНКА ЗАРЭЧНЫ**

**Дарагая „Зорка"!**

*Звяртаемся да цябе, „Зорка" мы, вучні з Дубічаў-Царкоўных, каб на тваіх старонках маглі паявіцца казкі вучняў VI класа. На ўроках беларускай мовы мы самастойна складалі казкі і гумарыстычныя апавяданні. Мы цэлым класам выбралі тры лепшыя (паводле нас) казкі і рашылі выслаць іх у рэдакцыю „Зоркі".*

*Вось казка першая:*

# ХІТРАСЦЬ ШЧЫКА

Далёка, за гарамі, за лясамі жыў-быў чалавек, у якога было тры сыны. Звалі яго Трушчык. Найстарэйшага сына звалі Грозь, сярэдняга — Стозь, а самага малога — Шчык. Жылося ім нялёгка. Жылі ў старой хатцы, мелі вала і кавалачак зямлі. Працавалі цяжка, ад раніцы да позняга вечара. Аднойчы вечарам бацька кажа:

— Сыны мае, шчасця тут не знойдзеце. Ідзіце ў свет і вяртайцеся праз тыдзень.

— Я пайду са Стозем, мы ўдваіх мудрэйшыя, — кажа Грозь.

— Добра, ідзіце. Аддам вам вала.

— А я пайду на службу да пана, — кажа Шчык.

І так сыны падаліся ў свет. Старэйшыя сыны пайшлі на захад, а самы меншы, Шчык, на службу да пана.

Прыходзіць Шчык да пана і кажа:

— Прыйшоў я на службу да вас.

— Добра, але тады толькі вазьму цябе на службу, калі выканаеш мае загады.

— Паспрабую.

— Ну, прабуй, — кажа пан. — Калі ты праз гадзіну змалоціш гэтае жыта, дам табе мяшок золата.

— Ну, — думае Шчык, — я ж ніколі такога яшчэ не рабіў, не ведаю, як гэта робіцца. Але папрабаваць можна.

У пана на сцяне вісеў вялікі стары гадзіннік. Пан пагледзеў і кажа:

— Ну, пачынай хутчэй, мой гадзіннік ніколі не памыляецца, ён пазвоніць, калі будзе трэба! А я іду, пасплю сабе, бо мне ногі баляць ад такой спякоты.

Калі пан выйшаў, Шчык пачаў думаць, як узяцца за работу. Падышоў да акна, і калі ўбачыў курэй, то на сэрцы яму адразу палягчэла. Ён паклікаў усіх курэй, якія былі на панскім двары (іх у пана было нямнога). Куры пачалі дзяўбці жыта. Калі кончылі работу, Шчык хутка выгнаў курэй на двор, а на двары яны, дзе ступілі, пакідалі яйкі. Амаль увесь падворак усланы яйкамі! Нарэшце пазваніў гадзіннік. Пан хутка прачнуўся і прыйшоў пагледзець работу.

— Ну што, зрабіў?

— Зрабіў, жыта змалочанае.

Пан пагледзеў, і ад здзіўлення ледзь яму вочы наверх не вылезлі:

— Як гэта магчыма?!

— Давайце золата, то скажу.

Пан хутка прынёс мяшочак.

— Добра, гавары хутчэй, — нецярпліўся пан.

А Шчык кажа:

— Я паклікаў вашых курэй, а яны былі такія галодныя, што вельмі хутка справіліся не толькі з пшаніцай, але нават з вашым жытам.

Шчык вярнуўся да свайго бацькі з золатам. Яго браты былі ўжо дома, але без нічога. Цяпер уся сям'я, дзякуючы Шчыку, разбагацела. А пан усё думаў: „Як пару курачак магло столькі з'есці?!"

**АГНЕШКА ЛЕАНЮК**
**вучаніца VI класа**
**Пачатковай школы**
**ў Дубічах-Царкоўных**

# ЛАГАГРЫФ




1. гародніна з сакавітым аранжавым коранем, 2. дрэва з белаю карою, 3. спажыванне ежы вечарам, 4. павозка, у якой вазілі караля, 5. нясе яйкі, 6. дваровы „спявак".

Вылучаныя літары складуць назву мусульманскай святыні. На Беласточчыне святыні гэтыя ёсць у Крушынянах і Багоніках.

# МАЛАДАЯ „БЕЛАВЕЖА" Ў МЕНСКУ

24 сакавіка, у чацвер, а гадзіне 18.30 у Вялікай зале Дома літаратара ў Менску пачалася вечарына „Маладая „Белавежа", прысвечаная творчасці наймалодшага пакалення амаль 36-гадовага беластоцкага Беларускага літаратурнага аб'яднання. Быў гэта першы такога тыпу паказ „Белавежы" ў Беларусі, хаця раней на гэтай сцэне ўжо два разы з энтузіязмам прымалі Сакрата Яновіча. Вечарына рыхтавалася на даволі сціплым узроўні — мелі прыехаць Міра і Макс, добра вядомыя ў багемным, маладалітаратурным менскім асяроддзі, прывезлі б новыя кнігі, Марыська мела выступіць з міні-спектаклем на вершы маладых „белавежцаў", менскія дзеткі хацелі прапяяць пару песень са спектакля-казкі „Дзівасіл" Міры Лукшы... Ну, вядома, маладыя захацелі ўзяць з сабою Сакрата, хаця, як заўсёды дасціпна, закінуў ім... некрафілію! Хітра гэта „белавежская" моладзь прадумала з Яновічам, празорліва; вядома, што нават тады, калі нешта „сыплецца" — Сакрат усё загаворыць! Дарэчы, Сакрат Яновіч — адзін з заснавальнікаў „Белавежы", аднагодка Міры і Макса; можна сказаць — сімвалічны пераход пакаленняў.

Пра пераклад Янкі Максімюка Джойсавага „Уліса" даўно ўжо гаварылася ў Менску (і не толькі). Да сакавіка мела выйсці з друкарні іншая яго кніжка — пра беларускую заходнюю эміграцыю (на жаль, гэта не атрымалася). Варта было паказаць і іншыя выданні маладых „белавежцаў". У студзені сакратар управы „Белавежы" Міра Лукша пачала перамовы ў Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі. Цяжкавата было з тэрмінам — практычна ва ўсе адпаведныя для выступленняў дні ў першым квартале 1994 года залы Дома літаратара былі занятыя. Удалося, аднак, вызначыць дату, а гэта дзякуючы стараням кансультанта Міколы Міхноўскага. І пачынаць рыхтавацца, але без упэўненасці, што ўсё атрымаецца, бо ў Беларусі нельга сказаць, што ўсё пойдзе рыхтык, бо ўсё, калі ўдаецца, то цудам! І да канца не было вядома, ці імпрэза сапраўды будзе...

Запакаваў Максімюк чатырыста штук „Уліса" ў машыну сябра, узяў сваю Галіну (жонку, сакратарку і апякунку) і памчаўся ў Менск. Сакрат Яновіч падаўся ў сталіцу на рэйсавым аўтобусе, зыркім вокам выглядаючы па дарозе беларушчыны і іншага. Віктар Стахвюк, бізнесмен не меншы за паэта, усё ж не забыўся на бізнес (ехаў па службовых справах), але на свой светлы самаходзік укінуў горбу Сакратавых кніг. А Міра ўжо тыдзень раней рыхтавала ўсё ў Менску — і праграму, і рэкламу, і... прыём (скінуліся яны з Максам па капейцы са сваіх сціплых кішэняў і прыём зрабілі як якое вяселле, дакладна на банкеце бавілася 108 асоб!).

Абяцалі выступіць знаёмыя менскія дзеці, ансамбль „Альтанка" з лірычнымі песнямі на словы Міры Лукшы з музыкай Уладзіміра Казбанава... І Эля Бязюк. Ужо нейкі шкілет імпрэзы быў. На месцы Міра высветліла, што практычна ёсць толькі забраніравана Вялікая зала, але не было інфармацыі пра вечарыну ні ў друку, ні па-радыё (абяцалі ж нават зрабіць плакаты!), ніхто пра імпрэзу не ведае — не павысылалі запрашэнняў... Міра забегала па Менску — пайшлі інфармацыі ў жывы эфір, у тэлебачанні, тэлефанічна паведаміла амаль усіх, каго варта і прыемна было б пабачыць як госця. Прафесар Уладзімір Гніламёдаў сам запрапанаваў выступіць з некалькімі словамі пра „Белавежу". Хацела выступіць для сяброў і „Крама", але немагчыма было падключыць рокавыя інструменты (рокавы беларускі свет багата прэзентаваўся затое сярод гасцей — „Крама", „Уліс", „Мроя", „Новае неба..."). А гасцей — ад „першацвітаўскай" літаратурнай моладзі і класікаў; мы з радасцю ўбачылі хоць бы Янку Брыля, Ніла Гілевіча і Аляксея Гардзіцкага (чые анекдоты пра пісьменнікаў чытаем у „Ніўцы"), цераз мастацкі свет да прадстаўнікоў польскага і беларускага міністэрстваў культуры і дыпламатаў (быў прысутны м.інш. пасол Уладзімір Сянько). І тэлебачанне, на вялікую радасць выступаючым дзецям („белавежцы" далі некалькі інтэрв'ю). І стала трошкі страшнавата — усё ж усё рабілася стыхійна, крыху „пабасаўску", а тут — маеш!.. А думалі, сядзе кучка маладых сяброў — пісьменнікаў, музыкаў, мастакоў, студэнтаў, паразмаўляем пра літаратуру і жыццё-быццё, вып'ем кропельку, паспяваем, Сакрат раскажа пра той час, калі нараджалася „Белавежа", Янка толькі што расплюшчыў вочы, а Мірына мама нават не ведала, што Міра будзе дзяўчынкай, да таго ж паэткай...

Пачалася ўсё нетыпова, спецыяльна, каб разбіць закасцянелы канон выступленняў і вечарын у менскім Доме літаратара, дзе юбіляраў і іншых ардэнаносцаў саджаюць радочкам за зялёным сукном на сцэне, і ўсе такія ўрачыстыя, што нават страх усхопіцца! Першымі выйшлі дзеткі з Тэатра музычнай казкі з кампазітарам Уладзімірам Казбанавым і прадставілі пару песень з „Дзівасіла" пра дзяўчынку Алінку з Белавежскай пушчы і яе сяброў. І толькі пасля іх на сцэне паявіўся Аляксей Гардзіцкі (які заўсёды пачынае імпрэзы з „замежнікамі") і сказаў пару слоў пра „Белавежу", вядомую ў Беларусі з тыповых акадэмічных выказванняў казённых крытыкаў. Сакрат Яновіч, апрача ўспамінаў пра пачаткі „белавежскай" літсуполкі і яе гісторыю прачытаў, шарахнутым ад нечаканасці, вядучым Яновіча з ягоных лірычных мініяцюр, свае дзве сакавітыя гумарэскі. Янка Максімюк, малады „белавежац", як мае быць, прадставіў істоту творчасці, бытавання і духа беларускага пісьменніка з Беластоцкага краю. Прафесар У. Гніламёдаў, які даўно ўжо цікавіцца „Белавежай", досыць цікава і лаканічна прадставіў сутнасць розніцы „белавежскіх" пакаленняў і крануў перш за ўсё тэмы творчасці і творчы варштат м.інш. С. Яновіча, М. Лукшы, А. Баршчэўскага, В. Петручука, Н. Артымовіч. Пра свае спатканні з „белавежцамі" і іхняй творчасцю крыху прыўзнята выказаўся таксама Алесь Разанаў.



*Сакрат быў вясёлы як ніколі.*

Акрасай гэтых выступленняў быў спеў дзяцей з Творчага цэнтра „Вячоркі" („Чабарок", вядомы ў школах на Беласточчыне). Ну і выступленне Марысі Аліфер! Практычна збіла яна ўсіх з ног! Яе „Лісты перад сном" зачаравалі публіку. „Яе" лісты — гэта значыць Андрэя Сцепанюка, Міхася Шаховіча, Міры Лукшы, Яўгена Вапы, Валодзі Гайдука, Надзі Артымовіч, Сакрата Яновіча. І Марысіна „Падкова". Наша Марыся ў скромным хатнім халаце, у тапцях, на фатэлі, з кубкам кавы і горсткай лістоў, з гітарай... Гэта было другое тут Марысіна выступленне; першы раз, калі „Балаган" паявіўся на тутэйшай сцэне, Марысі запрапанавалі стыпендыю ў Беларускай акадэміі мастацтва...

Пасля — размовы, размовы, размовы... І вясёлы, народна-рокавы прыём (якія ж галасістыя Мікола Міхноўскі і Кася Камоцкая!). Для Сакрата не было „крынкі" (на здымку яго бачым з бутэлькай „мінскай-4", але быў ён вясёлы, як хіба ніколі. Іншых таксама — „усё было добра", як сказаў паэт-скандаліст Анатоль Сыс, які паводзіў сябе на гэты раз як анёлак. Добра было, бо — іначай, павяжаму. Бо якраз супроць штампу і нудоты пратэстуе ўголас, гвалтоўна і нахабна наш сябра Анатоль.

**ПАЎЛІНА КАЗАРЭЗ**
**Фота М. Лукшы**

❐

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**11 - 01 - 1990 г.**

(...) Падзеі ў СССР ідуць у тым кірунку, што нават Беларуская ССР будзе вымушана стацца суверэннай, гэтая найстрашней затаптаная з усіх „эсэсэраў". Прост за вушы павалакуць яе ў самастойнасць нейкую! Дзяржаўную абавязковасць беларускай мовы ўжо і самі каланізатары перасталі ставіць пад сумненне.

Час ад часу прымаю тэлефон ад нейкіх беларусападобенцаў, польскамоўных. Намаўляюць яны мяне зрабіцца экстрэмістам. Правакатары?

Часам падаюць голас забытыя знаёмцы; мастак Мольскі з Н. Вісьніча. А Рышард Залуска з Варшавы абяцае... Польска-беларускае таварыства.

**25 - 01 - 1990 г.**

(...) „Голас Радзімы" ад 18-га робіць прапаганду „Грамадзе", публікуючы не надта прыхільныя ёй заўвагі Барскага, у вузкім інтэрв'ю „Час трывогі і надзей". Выступаючы супроць традыцыйнай у беларусаў грыжы, сам ён шмат у чым спрыяе ёй. Цванікуе.

**29 - 01 - 1990 г.**

„Dolina pełna losu" — закончыў пісаць! І гэта самае галоўнае: пазбыўся застарэлага грузу. Прымуць кніжку да друку, ці не — гэта ўжо не такая бяда. Выйдзе, калі не цяпер, дык некалі ў будучым.

„Res Publica" nr 9—12 — апублікавалі артыкул Ярaслава пра знішчэнне беларускіх назваў у Беластоцкім краі. Практычнае значэнне яго будзе нулявое, але тэарэтычнае — важнае!

Паштоўка ад Лёніка, з Rio Gallegos (Аргенціна). Паездзіць хлопец па свеце! І слушна, бо добры яму час можа даволі хутка скончыцца, як усякая кан'юнктура.

**31 - 01 - 1990 г.**

Пачытаў „Беларускі каляндар на 1990 год" пад рэдакцыяй маіх маладых калегаў і зрабілася ваўкавыйна на душы! Змест неблагі, цікавы, але... мова, мова, чорт вазьмі! Памылак у ім, якіх толькі хочаш! І літарных, і сінтаксічных, і семантычных, і... прасціцкіх, ад неахайнасці. Нядбайна робяць яны тое, за што бяруцца. „По вэрхах!!"

Падумваю пра рэаліі руху „Грамады". Бяда не ў тым, што будзе ён грамадска маленечкі; такія эмбрыёны ў спрыяльных акалічнасцях хутка растуць (працэнтуе легенда). Усё думаю, ці ўдасца жывучасць „грамадаўскай" групоўкі, рэгулярнасць ейнага пульсу. Трэба будзе мне канцэнтравацца на „двух нагах" як умове стабільнасці задуманай „Грамады", г.зн. на фінансавым забеспячэнні яе з аднаго боку і на ўтрыманні прэсавага бюлетэня з другога боку. Бягучая дзейнасць будзе толькі вектарам гэтых патэнцыялаў. Дзеля гэтага ў кіраўніцтве патрэбнай будзе асоба ў ролі касіра і асоба ў ролі рэдактара. Важна пры гэтым, каб абодва яны былі ў нейкай меры зацікаўлены і матэрыяльна з увагі на тое, што іхныя функцыі патрабавацьмуць штодзённай працы (Антось? Максімюк?). Эвентуальная гаспадарчая дзейнасць мусіць адбывацца аўтаномна, і толькі яе развіццё дазволіць арганізацыі ўтварыць штат або і два.

Статутная структура — напачатак максімальна скромная: галоўная рада, рэгіянальныя рады, рэдакцыя бюлетэня, гаспадарчая камісія (...).

**3 лютага 1990 г.**

Колькі памятаю я Беласток, ніколі не былі ў ім аж так бязлюднымі тратуары вечарамі і ў святочныя дні (нядзелямі — часамі аўта якое і зрэдчас чалавечак у далечы).

Нарада ў маёй кватэры, наконт арганізацыі кангрэсу „Грамады" (Мірановічы, Стахвюк, Максімюк, Юшчук). Юшчук быў (2-га) учора на сустрэчы нацменаў з мін. Галем. Уражанне: невядома, дзеля чаго наладжана яе; высноваў аніякіх, пагаварылі ды столькі ўсяго. Нацмены думаюць утварыць саюз. Падтрымка з боку ўрада будзе на ўзроўні вегетацыі.

Назву „Грамады" трэба ліквідаваць як гістарычна акампраметаваную камунізмам. Яўген Мірановіч прапануе м. ін. Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне (Białoruskie Zjednoczenie Demokratyczne). Прапанаваная мною структура паслужыць за падставу для выпрацоўкі Юшчуком праекта статута БДА. (...)

(...) Кіраўніцкі эшалон БДА — толькі з маладых; старыя нічога добрага ўжо не зробяць, мінулыя з іх людзі. Мае быць гэта палітычны рух, а не культурніцкі (спевамі ды танцамі хай займаецца БГКТ Барскага). (...)

*(працяг будзе)*

*) *Нацмены, тое што нацыянальныя меншасці.*

❐

# КРЫЖ ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

*(працяг)*

Пасля бальшавіцкага перавароту ў 1917 годзе, полацкі крыж быў прызнаны музейнай каштоўнасцю. Мабыць, гэты факт усцярог яго ад знішчэння ў гады праграмнай барацьбы з „опіумам для народа", калі хваля апантанага атэізму і варварства абрушылася на храмы, культавыя прадметы і нацыянальныя каштоўнасці. Быў сапраўды такі час, калі ікона пятнаццатага стагоддзя магла стаць распалкай, а старажытны твор мастацтва мог быць пераплаўлены на метал. На шчасце гэткі лёс абмінуў Еўфрасіннеўскі крыж прынамсі да II сусветнай вайны.

У сваёй кніжцы „Еўфрасіння Полацкая" Уладзімір Арлоў піша, што ў 1921 годзе бальшавікі рэквізавалі крыж. Дзякуючы намаганням дырэктара Беларускага дзяржаўнага музея Вацлава Ластоўскага, у 1929 годзе крыж, які знаходзіўся ў фінансавым аддзеле ў Менску, быў перавезены ў Магілёў. Усё гэта адбывалася ў часе, калі пачаўся планамерны наступ на беларускую культуру. Найбольш каштоўныя прадметы з Дзяржаўнага музея былі вывезены ў Маскву. Паводле звестак эміграцыйнага даследчыка Вітаўта Тумаша з ЗША, у 1920-30 гады, пад кіраўніцтвам ОГПУ вывезены былі самыя каштоўныя абразы, увесь залаты і сярэбраны посуд, збор слуцкіх паясоў, калекцыі старажытных манет і гэтак далей. Адначасова боязь перад „інтэрвенцыяй міджнароднай буржуазіі" нарадзіла ідэю перанясення сталіцы з Менска ў Магілёў. Горад ужо рыхтаваўся да новай ролі і 21 лістапада 1929 года туды трапіў крыж Еўфрасінні Полацкай. Уладзімір Арлоў піша, што паводле ўспамінаў былога супрацоўніка музея Ераніма Філіповіча, перад крыжам у музеі наведвальнікі, асабліва жанчыны, пачалі маліцца і адбіваць паклоны. Мабыць, гэта было адной з прычын перанясення крыжа ў будынак былога земскага банка. Будынак меў адмысловы пакой з масіўнымі кратамі на вокнах і браніраванымі дзвярыма таўшчынёй у 15 сантыметраў.

Паводле звестак выдатнага спецыяліста, які, між іншым, цікавіўся крыжам, Адама Мальдзіса, у 1933 годзе музей у будынку былога земскага банка па вуліцы Міронава, дзе знаходзіліся пакоі-сейфы, быў перададзены абласному камітэту партыі, а музей перасялілі на Ленінскую вуліцу. У новым памяшканні размешчана была экспазіцыя толькі найнавейшага, савецкага перыяду, а старажытныя каштоўнасці, найбольш вартасныя, засталіся ў некалькіх браніраваных пакоях абкама партыі. Праф. Мальдзіс піша, што паводле актаў Галоўнага архіўнага ўпраўлення, пад нумарам 10 спіска заграбленых немцамі ў 1944 годзе помнікаў значыцца крыж Еўфрасінні Полацкай, ацэнены ў 6 мільёнаў рублёў. Паводле якіх крытэрыяў ацэньвалі вартасць гэтай сапраўды бясцэннай рэлівкіі, не вядома. Так ці інакш, пасля роспачнай абароны горада, 26 ліпеня 1941 года, немцы адносна лёгка захапілі Магілёў. Ад гэтага часу наконт крыжа і іншых музейных экспанатаў з Магілёва, афіцыйны і адзіны адказ гучэў: „зрабаваны або знішчаны нямецкімі захопнікамі". Адносна зрабавання дык гэта вельмі праўдападобнае але, што тычыцца знішчэння, дык цяжка сабе ўявіць, каб немцы не ўсведамлялі каштоўнасці крыжа XII стагоддзя. Планамерна спусташаючы музеі ў захопленых краінах не ўзвальвалі ж на грузавікі без ладу і складу тое, што магло быць упрыгожаннем любой калекцыі або музея.

З другога боку, крыж неабавязкова мусіў паехаць на Захад. Магілёў знаходзіўся за паўтысячы кіламетраў ад дзяржаўнай мяжы і калі ўдавалася эвакуаваць цэлыя фабрыкі, дык было дастаткова часу, каб эвакуаваць на Усход самыя каштоўныя музейныя скарбы. Уладзімір Арлоў згадвае ў сваёй кніжцы пра вельмі заблытаныя і супярэчлівыя сведчанні былога дырэктара музея Мігуліна, які нібыта хацеў эвакуаваць музей, але не атрымаў транспарту. Ён сцвердзіў, што немцы зрэзалі цяжкія дзверы аўтагенам і вывезлі ўсё невядома куды. Але ж сотні людзей на ўласныя вочы бачылі, што металёвыя дзверы, абсалютна цэлыя, былі зняты толькі ў палове 1980-х гадоў, а іншыя, закратаваныя, наогул ніхто не чапаў.

На думку Арлова, бліжэйшымі да праўды выглядаюць сведчанні магілёўскіх жыхароў. Паводле іх, у чэрвені 1941 года, у першыя дні вайны, у будынак банка зайшла група людзей у мундзірах НКУС, якія звычайна адчынілі пакой-сейф ключом, склалі каштоўнасці ў падрыхтаваныя загадзя мяхі і ад'ехалі ў невядомым кірунку.

Вітаўт Тумаш лічыць, што крыж маглі перахапіць „даверaныя асобы" партыі і НКУС, але нават калі крыж паехаў не на Захад, але на Усход, гэта ўсё роўна не выключае магчымасці продажу нашай святыні на аўкцыёне або сакрэтным чынам за мяжу.

У 1960-я гады магілёўскі абласны музей звярнуўся з запытам наконт крыжа ў санкт-пецярбургскі Эрмітаж. Адтуль неўзабаве прыйшоў нічым не абгрунтаваны адказ, што крыж Еўфрасінні Полацкай трапіў у зборы мільянераў Морганаў і знаходзіцца ў Нью-Йорку. У кожным разе Эрмітаж адразу паспрабаваў схіліць сляды пошукаў у заходнім напрамку. Як высветлілася пазней, таксама і ў ЗША ніхто не схільны разважаць на тэму крыжа, але аб гэтым наступным разам.

*(заканчэнне будзе)*

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

# ПЕРШАЯ СХІЗМА МІЖ ВІЗАНТЫЯЙ І РЫМАМ (482—519 г.)

Сабор у Халкідоне не спыніў спрэчак аб адной ці дзвюх натурах Хрыста. На Саборы ў Халкідоне было пацверджана, што ў Хрысце аб'ядноўваюцца дзве натуры: боская і людская, але яны не паглынаюцца ўзаемна, не мяшаюцца з сабой, што яны з'яўляюцца непадзельнымі і неразлучнымі. З пастановамі Сабору не хацелі згадзіцца манахі і містыкі Усходу, якія не маглі паверыць, што Хрыстос меў звычайную людскую натуру, якая магла грашыць. На Захадзе дактрына аб абагатварэнні чалавека была яшчэ невядомай і таму монафізітызм быў для іх ерассю, нязгоднаю з навукай папы Льва I, змешчанай у т.зв. „Томасе". Памылковая навука монафізітаў, якія сцвярджалі, што Хрыстос меў толькі адну натуру, боскую, разыходзілася хутка ў цэрквах Сірыі, Месапатаміі, Арменіі, а асабліва Егіпта. Вялікі ўплыў мелі тут таксама палітычныя пагляды насельніцтва, якое не згаджалася з дамінацыяй Візантыі. Абарона монафізітызму ў Егіпце спляталася з супраціўленнем замежнай уладзе. Патрыярх Александрыі Цімафей (457—477) адкінуў пастановы Халдікона і выкляў рымскага папу Льва I і патрыярха Канстанцінопаля Анатолія. У Канстанцінопалі вялікую ролю адыгрывалі партыі зялёных і блакітных. У партыі зялёных былі пераважна людзі з Азіі, не звязаныя з грэчаскай культурай. Партыя блакітных складалася з кансерватараў, якія не хацелі дапусціць нічога новага, асабліва ў Царкве. Былі ў ёй пераважна грэкі і эліністы. Калі зялёных падтрымлівалі бяднейшыя класы і свецкае духавенства, то блакітных — арыстакратыя і манахі, асабліва студыты (ад манастыра Студыён у Канстанцінопалі). Яны былі заўзятымі прыхільнікамі Сабору ў Халкідоне. У 475 г. прыхільнікі Халкідона, імператару Зянону, зялёныя адабралі ўладу і паставілі на яго месца Васіліска (475—477), які асудзіў Халкідон. Блакітныя арганізавалі вялікія дэманстрацыі супраць Васіліска, у якой браў удзел слаўны аскет Данііл, які жыў на слупе. Зялёныя скапітулявалі і да ўлады вярнуўся Зянон (477—491), які пачаў шукаць шляху згоды паміж праціўнікамі. Тады паўстала формула згоды між прыхільнікамі Халкідона і монафізітамі. Формулу гэту апрацаваў патрыярх Канстанцінопаля Акакій (471—489) у дакуменце названым „Хенатыкон" (Дакумент Аб'яднання" — 482 г.), які быў згодны з „Томасам", бо забараняў гаварыць аб адной ці дзвюх натурах Хрыста, бо Хрыстос „ёсць адзін, а не двух". Але ў „Хенатыконе" нічога не ўспаміналася аб Халкідоне і аб „Томасе" папы Льва I. Большасць усходніх епіскапаў падпісала гэты дакумент. Прыняў яго таксама патрыярх Александрыі Пётр (477—490). Рымскі папа Феліск III (483—492) выслаў у Канстанцінопаль сваіх легатаў, каб праверылі ўсё на месцы. Легаты згадзіліся з патрыярхам Акакіем і нават прынялі ўдзел у літургіі ў саборы св. Сафіі. Але супраць „Хенатыкона" запратэставалі студыты і папа Феліск III (483—492) не згадзіўся са сваімі легатамі ды ў ліпені 484 г. выкляў іх і кінуў анафему на патрыярха Акакія і імператара Зянона. Так пачалася першая лацінска-грэчаская схізма, якую беспадстаўна называюць „акакіеўскай", бо вызваў яе не Акакій, а рымскі папа Феліск III. Папа мог тады так выступіць, бо імператар Візантыі не мог пакараць папу, бо там панавалі остготы. І калі Канстанцінопаль хацеў згоды і аб'яднання з монафізітамі, то спадала на яго клятва Рыма, а калі ён стараўся прымірыцца з Рымам, то выступала супраць яго Александрыя. Але ў 496 г. староннікі грэкаў выбралі рымскага папу Анастасія II (496—498). У тым часе патрыярхам Канстанцінопаля быў Македоній (496—511). Папа Анастасій II хацеў памірыцца з Канстанцінопалем і выслаў туды сваіх легатаў, якія заключылі пагадненне з Македоніем і схізма перастала на кароткі час існаваць. Аднак супраць легатаў выступілі студыты, якія пагадзіліся з ворагамі папы ў Рыме, з партыяй калабарантаў з остготамі і яна сарвала сувязь з папам Анастасіем і аб'явіла яго ерэтыкам. Пасля нечаканай смерці папы, на вуліцах Рыма палілася кроў. Зялёныя змусілі імператара выгнаць патрыярха Македонія, а на яго месца пасадзіць старонніка монафізітызму Цімафея (511—518). Гэта паглыбіла схізму. Папа Анастасій на свайго наступніка назначыў Лаўрэнція, якога выбралі рымскія сенатары і партыі мірнай згоды. Супраць яго выступілі калабаранты і ворагі грэкаў і яны выбралі папу Сімаха (498—514). Староннікі Сімаха вызвалі на падмогу важака акупантаў, які даў загад склікаць у Рым сінод, які ў 499 г. зацвердзіў папу Сімаха. Лаўрэнцій уступіў тады, але вярнуўся ў 502 г., калі рымскі сенат абвінавачваў Сімаха ў нейкіх цяжкіх злачынствах. Ізноў умяшаўся важак остготаў, які заявіў, што папу можа судзіць толькі Бог. Адбыўся „Божы суд", які выпаў некарысна для Сімаха. Лаўрэнцій вярнуўся ў Рым як папа. Ізноў умяшаліся остготы, якія выгналі Лаўрэнція з Рыма і Сімах далей сядзеў на папскім троне. Наступны папа Гормізд (514—523) вёў такую самую палітыку, як і Сімах. У Канстанцінопалі партыя блакітных атрымала ўладу, калі ў 518 г. імператарам стаў Юсцін (518—527 г.). І ён у 519 г. зліквідаваў схізму, пагадзіўшыся з рымскім папам Горміздам. Згоду падпісаў патрыярх Канстанцінопаля Іаан (518—520) і епіскапы Азіі. Не згадзіліся яе падпісаць епіскапы Егіпта. Лаўрэнція каталіцкая Царква лічыць антыпапам. Пасля Гормізда на папскі пасад уступіў Іаан I (523—526). Остготы змусілі яго паехаць у Канстанцінопаль да Юсціна і прасіць яго лагодна абыходзіцца з арыянамі (остготы былі арыянамі). Гэта было першае падарожжа рымскага папы ў Канстанцінопаль. Імператар Юсцін вельмі сардэчна прыняў Іаана і выканаў яго просьбу. Гэта паказалася остготам ненармальным і яны абвінавацілі яго ў здрадзе, пасадзілі ў турму, дзе ён хутка памёр.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

# НЯДЗЕЛЯ АБ НЯДУЖЫМ

Тры чарговыя нядзелі пасля Нядзелі Святых Жанчын-Міраносіц Царква ўсхваляе Уваскрэсенне Хрыста, а таксама прыпамінае нам евангельскія прытчы, у якіх асабліва ясна паказана людзям Боская моц Хрыста як Месіі. У першую з іх (паводле царкоўнага парадку чацвёртую пасля Пасхі) Царква ўспамінае прытчу аб нядужым, які быў хворы на параліч 38 гадоў і ляжаў ля Авечых Варотаў у Іерусаліме.

„Пасля гэтага было свята юдэйскае, і прыйшоў Ісус у Іерусалім. Ёсць жа ў Іерусаліме ля Авечых Варотаў купальня, што завецца па-юрэйску Віфезда, з пяццю стаўбамі. Каля іх ляжала мноства нядужых, сляпых, кульгавых, ссохшых, што чакалі руху вады; бо Ангел Гасподні час ад часу зыходзіў у купальню і каламуціў ваду; і хто першы ўваходзіў у яе пасля ўскаламучання вады, той здаравеў, на што б не хварэў. І быў тут нейкі чалавек, што хварэў трыццаць восем гадоў. Ісус, угледзеўшы яго ляжачым і даведаўшыся, што ён ляжыць ужо доўгі час, кажа яму: ці хочаш паздаравець? Хворы адказаў Яму: так, Госпадзе, але не маю чалавека, які спусціў бы мяне ў купальню, калі ўскаламуціцца вада; калі ж сам прыходжу, другі ўжо зыходзіць перада мною. І кажа яму Ісус: устань, вазьмі ложак твой і хадзі. І ён у тую ж часіну стаўся здаровым і ўзяў ложак свой і пайшоў. Было ж гэта ў суботу. Дзеля гэтага юрэі казалі аздароўленаму: сёння субота, не павінен ты браць ложак. Ён адказаў ім: хто мяне аздаравіў, той мне сказаў: вазьмі ложак твой і хадзі. Яго спыталіся: хто гэты чалавек, што сказаў табе: вазьмі ложак твой і хадзі? Аздароўлены ж не ведаў, хто Ён, бо Ісус адышоў ад народу, што быў у тым месцы. Пасля гэтага Ісус спаткаў яго ў царкве і сказаў яму: вось, ты цяпер здаровы, не грашы ж больш, каб не сталася табе нешта горшае. Чалавек гэты пайшоў і расказаў юрэям, што гэта Ісус аздаравіў яго" (Іаан, 5:1-15).

Ва аздараўленні нядужага Царква бачыць адначасна аднаўленне жыцця ўсяго чалавецтва шляхам Уваскрэсення Хрыста. Выразна гэта паказана ў царкоўных песнях гэтага дня: „Хрыстос устаў з магілы, пачатак памерлых, першародны людскога роду і Тварэц усіх, якія існавалі, сатлелую матэрыю нашага роду цераз Самога Сябе аднавіў", а таксама „сёння смерць і пекла ў няволі, а род людскі ахінаецца ў нятленнасць". Царква прыпамінае нам адначасна аб аслабленні нашай душы ў выніку дзейнасці грахоў і заклікае нас прасіць Госпада, каб выратаваў нашы душы, так як выратаваў нядужага. Заклікае нас таксама, каб ішлі мы да Хрыста той дарогай, якую Ён Сам паказаў сваім улюбёным вучням.

У сераду тыдня аб нядужым адзначаем перапалавенне Пяцідзесятніцы — палову перыяду паміж Пасхай і Сашэсцем Святога Духа на Апосталаў. У гэты дзень Царква прыпамінае нам навуку Хрыста ў Іерусалімскім храме аб Сваім Божым пасланніцтве (Іаан, 7:14-30) і аб жыватворнай вадзе, якая абазначае жыватворнае вучэнне Хрыста і дары Святога Духа (Іаан, 7:37-39). Пачаткі гэтага свята сягаюць апостальскіх часоў, а пры жыцці Святога Іаана Златавуста яго ўжо адзначалі. Спалучае яно ў сабе два вялікія Святкаванні — Пасху і Пяцідзесятніцу, працягваючы святкаванне першага і прыпамінаючы аб надыходзе другога.

**С. Н.**

# ГЕНЯ І СЯРОЖА

На вяселле Юркі і Ніны прыехалі госці з Савецкага Саюза, старэйшае сужонства і іхні сын Сяргей, вельмі прыгожы хлопец. Не было на свяце мужчыны, прыгажэйшага ад яго.

Як толькі Геня глянула на Сярожу — закахалася па самыя вушы. Падышла да яго першая, хаця не вельмі гэта выпадала дзяўчыне. Селі разам за стол, спявалі рускія песні.

— Глянь ты, — гаварыла Ніна Юрку, — як наша суседка заляцаецца да нашага Сяргея!

Рускія прыехалі ў госці на два тыдні. Пасля вяселля Геня штодзень прыходзіла да суседзяў, пабачыць Сярожу, і хлопец пачаў яе наведваць. Аднойчы Ніны бацькі заўважылі, што Сяргей крадком п'е дэнатурат.

— Выкінь ты, Геня, гэтага Сярожу з сэрца, — пачалі раіць закаханай дзяўчыне, — ён жа п'е. Мы бачылі, як ён у стадоле піў „дзінатуру". І жанаты ён быў ужо тры разы.

Сярожавы бацькі цешыліся, што іхні сын спадабаўся такой прыгожай і багатай дзяўчыне. Пагаварылі з Генінымі бацькамі, каб шлюб адбыўся яшчэ перад іхнім выездам.

Геня не слухала перасцярог суседзяў. Свету за Сярожам не бачыла, марыла быць яго жонкай.

Удалося аформіць справы так, што вяселле зрабілі два дні да выезду ў Расію.

Бацькі Гені далі добры пасаг. Ледзь змаглі падняць вялізныя мяшкі сваты і зяць. Два мехі валакла на вакзал і Геня. Апрача рэчаў далі шмат золата і долараў. Вельмі чулліва развіталіся маладажоны з бацькамі. Геня засталася аформіць усе справы звязаныя з яе выездам у Расію.

У Растове-на-Доне Сярожа сустрэў жонку на вакзале п'яны. Сказаў, што меў гасцей, таму і выпіў. Геня паверыла.

Калі прыехалі дадому, Геня не ўбачыла ні аднай са сваіх рэчаў. Запыталася, дзе яе маёмасць.

— А якая табе справа да гэтага? — узлаваўся муж. — Трэба былі грошы, то і прадаў.

Геня знервавалася, пачала крычаць. Сяргей стукнуў яе так, што ўпала, страціўшы прытомнасць. Калі прыйшла да сябе, убачыла над сабою свёкраў.

— Гэта ты вінавата, што так усё выйшла. Наш сын добры, толькі нервовы, крычаць на яго нельга.

— Якая гэта дабрата, калі ўсё, што далі мне бацькі, прапіў?!

— Ну, а нашто толькі „смецця" дома? Прапіў, ну то што цяпер зробіш... Сядзьце, выпійце разам на згоду. Усё будзе добра.

Не хацела Геня піць. А Сярожа прыводзіў сваіх сяброў і даканаў рэшту Генінага багацця. Не раз здарылася галоднай жонцы ўцякаць у склеп. Ніхто ёй не думаў спачуваць, такі ж лёс выбрала.

У месяц такога жыцця Геня пасівела. Сорамна было прызнацца бацькам, але ўрэшце напісала пра ўсё дадому. Праз два месяцы ўдалося ёй выехаць. Прыехала да бацькоў як жабрачка, ледзь яе знаёмыя пазналі.

Паехала Геня на захад Польшчы да сваё сястры. Уладкавалася працаваць на фабрыцы, выйшла замуж за добрага чалавека.

— Вось, бачыце, — кажа цяпер, — не кожны чалавек прыстойны, калі з твару прыгожы.

**АЎРОРА**



# ЗАСТАЦЦА САБОЙ

☛ *Працяг са стар. 1*

было такой неабходнасці, лепш было не гаварыць, што ты — праваслаўны і беларус.

Так было да 1980 года. У разгар „польскай рэвалюцыі" я працаваў у Свінавусці ў рыбалоўным прадпрыемстве. Праца была досыць добрая, я быў дыспетчарам грузавых машын, ведаў многа людзей і іх адносіны да мяне былі добрыя. Калі пачаліся страйкі, я запісаўся ў „Салідарнасць", стаў нават актывістам. У час страйку ў нашым прадпрыемстве давялося мне перажыць эпізод, які меў досыць істотны ўплыў на мае паводзіны, асабліва ў адносінах да ролі нацыянальнага пытання.

У аднаго майго сябры нарадзілася дзіцё. У час страйку, калі мы сядзелі ў прадпрыемстве, ён папрасіў, каб я стаў яго кумам. Разумеючы складанасць і важнасць сітуацыі, я яму сказаў, што я не паляк, не каталік. Сябра мне шчыра адказаў, што ён гэта добра разумее, як цяжка мне гэта было сказаць, для яго гэта аднак не праблема, ён гэта разумее і адабрае, але ягоная жонка гэтага не зразумее і не будзе мяне акцэптаваць.

Гэты эпізод прыдаў мне сілы і зняў з плячэй нагрузку стэрэатыпнай практыкі скрывання сябе. Зразумела, пасля гэтага я сустракаў таксама многіх, якія пасля маёй адкрытай нацыянальна-рэлігійнай дэкларацыі адварочваліся ад мяне спінамі, а то і высылалі ў Маскву, але іх стаўленне да мяне не ствярала для мяне псіхічнага дыскамфорту.

Мая эміграцыя пачалася фактычна ў 1978 годзе, з часу выезду ў Свінавусце. Там я ўпершыню адчуў, што жыву па-за Беларуссю, не палітычна, але культурна-сацыяльна. Тады з'явілася ў мяне патрэба кантакту з беларускай культурай.

*— У 1981 годзе Ты пераехаў у Нямеччыну.*

— Так. Я проста вырашыў, што калі мне быць чужым у краіне, у якой я нарадзіўся, дык лепш будзе пераехаць у сапраўды чужую дзяржаву, але з такой надзеяй, што там прынамсі буду жыць лепш эканамічна. У Нямеччыне я апынуўся 10 кастрычніка, а 13 снежня ў Польшчы ўвялі ваеннае становішча.

Пасля шматлікіх двухгадовых намаганняў, дзякуючы прыхільнасці раней мне зусім невядомых людзей — жыхароў Канады, адрас якіх я атрымаў зусім выпадкова, я апынуўся ў Канадзе.

*— Якім чынам, не ведаючы мовы і людзей, ты здолеў адшукаць беларусаў?*



— Паколькі ў мяне было крыху грошай і многа свабоднага часу (першае паўгода пабыўкі ў Таронта я хадзіў на курс англельскай мовы, які мне, як паўнапраўнаму эміграну Канады, аплачваў канадскі ўрад), я многа хадзіў і знаёміўся з горадам. У пошуках беларусаў я найперш трапіў у праваслаўную расейскую царкву. Там, пасля нядзельнай літургіі меў магчымасць паразмаўляць з людзьмі. Былі сярод іх нават такія, што называлі сябе беларусамі, прычым гаварылі па-расейску і не адабралі маіх пошукаў знайсці арганізаваную беларускую суполку, а вылучанне сабе як беларусаў лічылі сепаратызмам. Я выпадкова зайшоў у Камітэт украінцаў, дзе далі мне нумар тэлефона беларускага пісьменніка Кастуся Акулы. І з таго часу пачалася мая прысутнасць у беларускім асяроддзі.

*— Асабліва ў Беларусі (на Беласточчыне гэтак успрымалася гадоў пяць назад) існуюць міфы пра вялікую арганізаванасць, сілу і вялікія магчымасці беларускай дыяспары ў Амерыцы. Як гэта ёсць у сапраўднасці?*

— Мой погляд такі, што беларусы, палякі і ўкраінцы дзейнічаюць на нацыянальна-грамадскай ніве прыблізна з параўнальна аднолькавай напружанасцю. Прычым, непасрэдна параўноўваць іх актыўнасць немагчыма таму, што колькасць беларусаў непараўнальна меншая.

З прыкрасцю мушу сканстатаваць, што ў беларускай эміграцыі ў Канадзе будучыні няма. Сумнае гэта сцвярджэнне, але, на жаль, так яно ёсць. Тое ж датычыць беларусаў у Злучаных Штатах, хаця там яны крыху лепш арганізаваны. На маю думку, людзі беларускага паходжання на паўночнаамерыканскім кантыненце не ў змозе ўтрымаць бесперапыннасць беларускага эміграцыйнага культурнага, рэлігійнага і палітычнага жыцця. Грамадска актыўныя толькі адзінкі, як, напрыклад, святой памяці Сяргей Карніловіч, якія ўвесь свой свабодны час прысвячаюць беларускім справам. Такіх людзей засталося, аднак, няшмат.

*— Як у канадскіх умовах атрымоўваецца сужыццё Царквы і нацыянальнай ідэалогіі, у нашым выпадку — беларускай?*

— На практыцы, пры кожным прыходзе існуе таксама грамадска-культурны цэнтр, і гэта атрымоўваецца неяк натуральна. Супольна наладжваюцца царкоўныя і нацыянальныя святы. Гэта датычыць праваслаўных, рыма-каталікоў, уніятаў, баптыстаў.

З жалем, аднак, трэба сказаць, што сярод канфесій (нават сярод адной — праваслаўнай, падзеленай на дзве юрысдыкцыі) сустракаюцца непаразуменні і канфлікты.

*— Дзякую за размову.*

# УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ — ПАЭТ РЭ ФЛЕКСІЎНЫ

## Частка VII

У спадчыне паэта знаходзім вершы: „Мне ў няволі жыццё надаела", „Ліст з Сібіры" і „Адказ", якія датычаць сібірскай ссылкі паэта. Пад першым з іх відаць заметку: „Калыма, Прыіск Верхні Ат-Урах. Студзень 1939 г." Пад наступнымі няма дат і зусім магчыма, што ўзніклі яны пасля таго, як паэт апынуўся на волі. Аднак нельга выключыць, што таксама паўсталі ў лагеры.

Трэба сказаць, што высакаякасны верш „Мне ў няволі жыццё надаела" з'яўляецца сведчаннем як таленту пісьменніка, так і яго адвагі. Многія беларускія паэты сядзелі ў сібірскіх лагерах, аднак нямногія прывезлі адтуль бунтарныя вершы; наадварот, многія з вярнуўшыхся са ссылак у шасцідзесятыя гады прыкідваліся, што нічога не сталася і што яны толькі жылі ў аддаленні ад Беларусі і ўсё.

Уладзімір Клішэвіч не належаў да такой катэгорыі людзей. Усяму свайму народу заяўляў аб сваёй крыўдзе і сваім прыніжэнні. Паслухайма яго настальгічных радкоў:

*Мне ў няволі жыццё надаела,*
*Смерць прыму, як збаўленне ад мук.*
*Лепей сам на душу сваю й цела*
*Палажу пальцы скованых рук.*
*Шчасце людзям даецца на свеце*
*Вельмі рана і толькі раз.*
*Тое шчасце прызначана дзецям;*
*Няма шчасця дзіцячага ў нас.*
*Час крылатаю птушкай імчыцца.*
*Ой, куды вы, гады, леціцё?*
*Я хацеў бы ізноў нарадзіцца,*
*Каб пабыць хоць часіну дзіцём.*
*Без пары маладосць адляцела.*
*Не заві ты ве, не заві!*
*Як душа разлучылася з целам*
*З гэтых дзён маё сэрца ў крыві.*
*Пей жа вецер халоднай Сібіры,*
*Пей праклятая й ты, Калыма!*
*Душу з сэрцам ніхто не памірыць,*
*Калі болей душы ўжо няма.*
*Непатрэбна нічога мне болей...*
*Досыць плакаць і годзе спяваць!*
*Я хацеў бы, каб толькі на волі*
*На Радзіме сваёй паміраць.*

Я не люблю доўгіх паэтычных цытатаў у крытычных публікацыях, бо такім чынам часта аўтары папаўняюць сваю інтэлектуальную імпатэнцыю чужою творчасцю. Калі я тут, аднак, адступіў ад гэтага прынцыпу, дык зрабіў гэта таму, што прыведзены верш Уладзіміра Клішэвіча дасканала характарызуе лёс катаржнікаў. Пры гэтым вельмі пераканаўча гаворыць аб стане духа „вінаватых без віны", якія папалі ў страшэнныя варункі лагернага бытавання. Здзіўляе яснасць верша, выразнасць выяўленых у ім ідэй, вострае адназначнае асуджэнне той сістэмы, якая стварыла такую рэчаіснасць.

У такім самым стылі ўтрыманы вершы „Ліст з Сібіры" і „Адказ". Калі б браць пад увагу паэтычную метрыку, характар адаўтарскай рэляцыі, метафорыку і агульны настрой, дык можна было б прыхіліцца да думкі, што ўсе тры вершы напісаны ў тым самым месцы і ў адным адрэзку часу. Аднак чагосьці такога катэгарычна сцвярджаць нельга, бо магчыма, што два апошнія вершы ўзніклі пазней.

Калі верш „Ліст з Сібіры" наогул паўтарае тое, што было ўжо сказана ў цытаваным творы „Мне ў няволі жыццё надаела", то „Адказ" уводзіць новую паэтычную канвенцыю. Верш „Адказ" напісаў Уладзімір Клішэвіч у форме адказу маці на лісты ад сына з Сібіры. Трэба сказаць, што паэт дасканала адчуваў пачуцці жанчыны, якой улада забрала двух сыноў.

*Лісты твае з Сібіры атрымала*
*І цяжка мне даваць табе адказ.*
*І многа слоў, і слоў занадта мала,*
*Каб перадаць, якое гора ў нас.*
*Ты знік, мой сын, і нават болей года*
*Я ведаць не магла пра твой суровы лёс.*
*Чакаючы штодня твайго дамоў*
*прыходу,*
*Я мора праліла з вачэй гарачых слёз.*
*Як толькі ў нас цябе, мой сын, не стала —*
*Перанясці я не магла бяды,*
*Бо хутка брата ГПУ забрала*
*І выслалі Бог ведае куды.*

Трэба сказаць, што нямнога было напісана ў Савецкім Саюзе вершаў так рашуча моцна акрэсленага антыдзяржаўнага характару, як гэтыя творы Уладзіміра Клішэвіча. Ствараючы іх, паэт выстаўляў сведчанне сваёй крыўдзе і сваёй нязгодзе з ёю, а таксама дэманстраваў веру ў сэнс паэзіі нават тады, калі палітычная рэчаіснасць не давала паэту ніякіх шанцаў.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# З МЕСЯЧНАГА КАЛЕНДАРА

**22.05. Месяц у Шалях.** Кіруе таліяй. Дзень красы, гармоніі, здароўя. Не нервуйцеся, не раздражняйцеся. Адпачывайце. Піце напар з мачагонных траў.

Добры ўплыў Месяца на бульбу, рэпу, спаржу, фасолю, гарох, віку, сачавіцу, асабліва ўсе клубневыя і струўковыя.

**23—24.05. Месяц у Скарпіёне.** Кіруе палавымі органамі. Прымайце гарачыя ванны, вяжучыя маскі, масаж крапівой.

Добрыя дні для пасадкі памідораў, рэдзькі, парэю, цыбулі, пасеву лячэбных і калючых раслін.

**25—26.05. Месяц у Стральцы.** Кіруе ягадзіцамі і бёдрамі. Добра харчуйцеся. Рабіце пладовыя і рамонкавыя маскі на твар. Асцярожна з ранамі.

**27—29.05. Месяц у Казярогу.** Падпарадкаваны яму калені. Многа хадзіце, кантактуйцеся з людзьмі і жывёламі. Піце ваду з крыніц. Не займайцеся агародам — дрэнны ўплыў Месяца на расліны.

**Нядзеля, 22.05. — 13 месячны дзень.** Сімвал — Кола. Дзень няўдачны, крытычны. Не заканчвайце спраў. Асцерагайцеся крыві. Сны не здзяйсняюцца.

**Панядзелак, 23.05. — 14 м. дзень.** Сімвал — Труба альбо Лабірынт. Добры для службовых спраў і камандзіровак. Будзьце асцярожнымі ў ацэнцы рэчаіснасці. Слухайцеся парад іншых і сваёй інтуіцыі. Займайеся сваім хобі. Дзіцю, народжанаму сёння, будзе спрыяць лёс. Хвароба будзе без паслядоўнасцяў. Сны невераготныя.

**Аўторак, 24.05. — 15 м. дзень.** Сімвал — Шакал альбо Гадзюка. Нярэдка прыносіць кароткую асалоду, якая зменіцца доўгім расчараваннем, асабліва ў каханні. Абмяжуйце любоўныя сувязі. Дзень цяжкіх спраў, якія часта здзяйсняюцца. Не прадпрымайце важных спраў. Дзень добры для рассакрэчання таямніц. Для здароўя — добра пагаладаць.

**Серада, 25.05. — 16 м. дзень.** Сімвал — Голуб альбо Матыль, сімвал нявіннасці і чысціні. Дзень вешчых сноў, хрышчэння, шлюбу, выхавання дзяцей. Важны для кардынальных жыццёвых рашэнняў, добры для людзей мастацтва, падарожнікаў, гандляроў. Могуць у галаву прыйсці добрыя ідэі. Дзіцё, народжанае сёння, будзе мець моцнае здароўе і доўгае, цікавае жыццё.

**Чацвер, 26.05, пятніца, 27.05. — 17 м. дзень.** Сімвал — Вінаградная гронка. Дае аснову для пачынання новых і важных спраў. Добры час для заручын, шлюбу, знаёмстваў. Дзіцё будзе шчаслівым. Старайцеся не прымаць лякарстваў, не піць алкаголю, хаця можа паявіцца цяга да яго. Не дайцеся справакаваць. Сны з гэтага здзяйсняюцца на трэці дзень.

**Субота, 28.05. — 18 м. дзень.** Сімвал — Малпа. Дзень патрабуе развагі і ўстрыманасці — час ашуканства і ілюзіі. Добры для наватараў, кантакту з іншымі, падарожнікаў і акцёраў. Не плануйце важных спраў. Трымайцеся за кашалёк. Дзіцё будзе працавітае, таленавітае, з гадамі стане багатым. Захварэўшы, можна доўга ляжаць. Сны ў большасці здзяйсняюцца.

**(М)**

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Сніцца мне, што я са сваёй братавай на вёсцы, у маёй роднай хаце. Там цяпер жыве толькі адна мачыха. І вось мы ўсе трое на кухні. Збіраемся пячы пірагі. Я зрабіла цеста на драждждах. Паклала ў бляшкі. Братавая падрыхтавала яблычны пірог. Бачу ў бляхах гэтае цеста, наверсе яблыкі, сцертыя на тарцы. Пірог братавай мы збіраемся пячы першым. А тут ужо маё цеста падрасло. Што рабіць? Я кажу: „Пячыце хутчэй, бо маё цеста пара ўжо саджаць!" Не ведаю, што было далей.

А маёй дачцэ снілася такое. Быццам глядзіць яна ў вакно. Унізе выкапана ямка, напоўненая вадой. Вада чыстая, празрыстая. Плаваюць там карпы — малыя і вялікія. Усе яны вельмі прыгожыя.

Астроне, дай адказ як найхутчэй!

**Надзя**

Даражэнькая Надзя! Прабач, калі ласка, але твой сон не надта добры, хаця выглядае даволі радасна. Вы пяклі пірагі, мо нават рыхтаваліся да вялікага свята, а думаеш, пірагі сніць — добра? Наадварот, абазначаюць яны, што мучаць цябе бясконцыя патрэбы, а багацця асаблівага дык нават няма чаго спадзявацца. Ну, і мачыха ў сне нясе з сабой смутак ці непрыемнасць.

А што датычыць сну тваёй дачкі, дык ён прадвяшчае цяжкі, але надта выгадны занятак. Пра гэта сведчаць тыя жывыя карпы, што плавалі пад яе вакном у ямцы, напоўненай вадой. А што вада была чыстая і празрыстая, дык тым і лепш — вынікі яе працы будуць яшчэ больш канкрэтныя.

**АСТРОН**

# ВІРАВАНКА З „К"



1. пень з карэннем, 2. матэрыял на шыбы, 3. сярод літаратараў, 4. імя, як рыба, 5. цякучы вадаём, 6. луб з карой, 7. від зубоў, 8. від рака, 9. мыс або селязёнка, 10. страва з круп, 11. дугападобная, 12. яшчэ будуе камунізм, 13. не заўсёды канчаецца кропкай, 14. від валакна, 15. усё, што тычыцца фільмаў, 16. сын Дэдаля.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку з 14 нумара:

**Гарызантальна:** калека, лірыка, панама, рака, трон, мемарандум, кара, энцы, мастак, маліна, расізм.

**Вертыкальна:** камора, капа, Ліма, капрон, натураліст, камера, Трумэн, Калыма, цынізм, мана, Акра.

Кніжныя ўзгнагароды атрымоўваюць **Мікалай Сазановіч з Навінаў-Вялікіх і Аляксандр Дабчынскі з Беластока.**

# З КУФЭРКА БАБУЛІ НАДЗЕІ

Надзея Руско нарадзілася 2 лютага 1906 г. у Белавежы. Яе дзявочае прозвішча — Шпаковіч. Яна зараз жыве ў белавежскіх Падалянах II, дом н-р 21. Славіцца спадарыня Надзея ў ваколіцы як захавальніца ведаў пра мінулае свае мясцовасці, пра мясцовыя абрады, звычаі, вераванні. З дзяцінства яна запамятала шмат даўніх песняў, прыпевак, прыказак і загадак, пачутых ад людзей народжаных яшчэ ў XIX стагоддзі. Дзякуючы дапамозе сына сп. Надзеі, вядомага з нашых старонак паэта Барыса Руско, я сабраў усе гэтыя тэксты і прадстаўлю іх у цыкле „З куфэрка бабулі Надзеі". Песні і ўсе іншыя творы запісаны ў дыялекце, якім карыстаецца бабуля.

На пачатак прыводжу фрагмент песні белавежскіх бортнікаў. Н. Руско пачула яе ад Язэпа Вашкевіча, які памёр у пяцідзесятых гадах ва ўзросце каля 90-та гадоў. Сп. Вашкевіч праспяваў бы тады ў кампаніі ўсю песню, але яму перашкодзіў ягоны сусед, які сказаў, што ён ведае „лепшую". Спадарыні Надзеі ўжо так і не прыйшлося пачуць усю песню. Што ж, шкада!

Бортнік, стоячы пры дрэве з борцю, запрашаў пчолку ў борць, махаючы рукой. А спяваў так:

*Ой, гула б пчолка, гула б,*
*па бору летаючы,*
*сасёнку шукаючы.*
*Ой, ляці пчолка, ляці,*
*да мае сасёначкі,*
*у маёй сасёначкі*
*медавок салодзенькі...*

А мо хто з нашых старэйшых чытачоў ведае працяг гэтай песні? Тады няхай напіша нам.

**ПЁТР БАЙКО**

# НЕ ЛАМАЦЬ ПРЫСЯГІ!

У адной вёсцы жылі маці, сын з нявесткай і незамужняя дачка. Маці цяжка хварэла. Калі адчула, што прыходзіць ужо смерць, паклікала да ложка дзяцей і прасіла сына з нявесткай, каб не крыўдзілі малалетняй сястры, а калі прыйдзе ёй час выходзіць замуж, далі ёй такі пасаг, які ёй нарыхтавала.

Сын з жонкай прысягнулі, што зробяць усё згодна з воляй паміраючай маці.

Сталася, аднак, інакай. Не пашкадавалі старэйшыя беднай сіраты. Забралі яе добрае адзенне, прадалі пасажную цялушку. Дзяўчына наракала на свой лёс, не раз у слязах прасіла матку, каб тая прыйшла і забрала яе на той свет.

Аднойчы восенню дзяўчына пайшла ў камору і не змагла адчыніць дзвярэй. З плачам пабегла да братавае:

— Чаго вы мяне так мучыце? Не хопіць вам таго, што ўжо ў мяне забралі? Яшчэ і камору зачынілі, каб нават у свой скупы куфэрак не магла заглянуць?

Пачалася сварка.

А ў свіронку была маці-нябожчыца. Не магла спакойна ляжаць на тым свеце. Балелі ёй ляманты пакрыўджанай дачкі. Прыйшла пaглядзець, што засталося ў ейнай скрыні і куфэрках. Пасля пайшла да сына, які на таку малаціў жыта. Хлопец, убачыўшы прывід, збялеў, цэп выпаў яму з рук.

— Я прыйшла зрабіць тут у вас парадак. Чаму крыўдзіце Агату?

— Мама, мы ўжо больш не будзем! І жонцы не дазволю. Гэта я яе слухаў. Мама, абяцаю паправіцца! — залапатаў ледзь жывы сын.

— Тады глядзіце! Хай мне прыйдзецца яшчэ раз прыйсці — будзе з вамі дрэнна! А цяпер ідзі дадому і супакой іх, яны так моцна сварацца! Я пагглядзела, што вы забралі з Агацінага пасагу. Аддайце ўсё, што не ваша! — сказала маці, узнялася ў паветра і паляцела, як стужка на ветры.

Перапужаны сын пабег дадому расказаць пра сустрэчу з маткай, што прыбыла з таго свету, каб паладзіць справы. Яго жонка хутка вярнула залоўцы яе маёмасць. Муж з перапуду прыхварэў і праляжаў, нямоглы, пару тыдняў.

**АЎРОРА**




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**РЫСАВЫЯ БЛІНЫ**

Прадукты:

*40 дэкаў рысу,*
*40 дэкаў пшанічнай мукі,*
*паўлітра малака,*
*5 дэкаў дражджэй,*
*10 дэкаў масла,*
*4 яйкі,*
*крыху солі,*
*тлушч для смажання.*

Рыс разварыць у малацэ, працерці праз сіта, перамяшаць з прасеянай мукой, развесці малаком да кансістэнцыі вельмі густой смятаны. Дадаць раскрышаныя дрожджы, перамяшаць, паставіць у цёплае месца, каб цеста падрасло. Масла расцерці з жаўткамі, бялкі збіць. У падросшае цеста дадаць жаўткі, пену, пасаліць і паставіць, каб ізноў падрасло. Смажыць бліны на тлушчы, як звычайныя блінчыкі.

**ГАСПАДЫНЯ**





**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцыляры), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1994 r. upływa 20 maja 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.




## ПІСЬМЕННІЦКІЯ БЫЛІ І НЕБЫЛІЦЫ

### ЯК СТАЦЬ КЛАСІКАМ

Прыехаў з Беласточчыны беларускі паэт Ян Чыквін і распытвае ў нашага Георгія Марчука пра яго жыццё.

— Маю выклік у Кёльн, — пахваліўся Марчук.

Праз год Мінск наведаў дырэктар Ольштынскага выдавецтва з Польшчы. На такое самае пытанне Марчук з гонарам адказаў:

— Маю выклік у Кёльн.

А яшчэ праз год ужо непасрэдна мне Марчук паведаміў тое самае: „Маю выклік у Кёльн".

Чаму менавіта ў Кёльн?

* * *

Працуючы над даведнікам пра пісьменнікаў, я папрасіў Георгія Марчука вычытаць нататку аб ім. Ён хуценька вачыма прабег яе і падагуліў:

— Напісана правільна. Класічныя творы ўсе пералічаны, астатнія называць неабавязкова.

**АЛЯКСЕЙ ГАРДЗІЦКІ („Полымя")**




*Малюнак Л. Разладава*




Сэрцайка! Да пэўнага часу маё жыццё, можна сказаць, плыло, як у казцы. У бацькоў былі два сыны, а я была адзінай доўгачаканай дачкою. Дык на мяне, наймалодшую, найбольш і спадзяваліся яны, але пакуль што і давалі мне найбольш свайго цяпла. Усяго я мела ўдосталь — і пачуццяў, і грошай. Бацька і маці выконвалі кожную маю просьбу, дагаджалі ва ўсім. А мне ўсё гэта здавалася зусім звычайным, быццам бы так і трэба было.

Калі я выходзіла замуж, маім блізкім здавалася, што я і ў сваім далейшым жыцці буду хадзіць па ружах. Хлопец быў адукаваны, з багатай сям'і, меў ужо кватэру і самаход. Больш таго — здавалася, што кахаў мяне без памяці.

Жыццё з ім прынесла мне, на жаль, адны расчараванні. Высветлілася, што сябе мой муж кахаў больш за ўсё! Калі я толькі стала яго жонкай, пачаў лічыць мяне за сваю ўласнасць. Рабіў што хацеў, піў гарэлку ды нават прымаў наркотыкі, а мне нельга было сказаць нават слова. Проста пры мужу я стала нічым. Калісь, калі я была цяжарная, нават ударыў мяне. Я сабрала найбольш патрэбныя рэчы і вярнулася да бацькоў. У бацькоў прасядзела я аж да нараджэння дзіцяці. Была я ў стане шоку. Ніколі не думала, што блізкія людзі могуць так пагардліва адносіцца адзін да другога. Раней мне здавалася, што на свеце існуе толькі каханне.

Бацькі, вядома, прынялі мяне са спачуваннем, але бедавалі, што са мной будзе. Муж абразіўся і нават ніводнага разу не наведаў мяне. Як мне было цяжка адной, з дзіцём пад сэрцам, можаш, бадай, сабе ўявіць. Ласкі бацькоў на ўсё не хопіць. Крыўда душыла мяне.

Зусім неспадзявана муж прыехаў у бальніцу і забраў мяне з дзіцём да сябе. Абяцаў, што будзе лепшы, што не піе і г.д., што будзе шанаваць мяне. А я, дурань, паверыла. Што ж, „шанаваў", але нядоўга. З трохмесячным дзіцём я вярнулася ізноў дахаты. Неўзабаве я атрымала кватэру і перабралася туды. І тады здарылася няшчасце. На працягу аднаго года памерлі мае бацькі. А я нават не магла ім ні крыху памагчы, бо, з малым дзіцём на руках, яшчэ ад іх чакала дапамогі. Муж, праўда, плаціў аліменты, але скрыгатаў пры гэтым зубамі. Я не працавала.

Час ішоў. Я аддала дзіця ў прадшколле, знайшла нейкую працу. Але на душы ўсё роўна было цяжка. Пакуль жылі бацькі, я аж так свайго адзіноцтва не адчувала. А цяпер мне здавалася, што я непатрэбная нікому. Усё яшчэ спадзявалася, што знайду сабе чалавека. Нават развялася з мужам, бо ведала, што да яго ніколі не вярнуся, але на гарызонце нічога цікавага не паяўлялася. Нялёгка, відаць, было ісці на чужое дзіця.

Аднойчы сяброўка запрасіла мяне на сход сведкаў Яговы. І, уяві сабе, Сэрцайка, мне там спадабалася. Пачала і я хадзіць, а пасля і ахрысцілася. Мне стала лягчэй. Я была між братамі і сёстрамі, на якіх заўсёды магла разлічваць, спадзявацца ад іх дапамогі. Думала, што сярод іх хутка знайду сабе мужа, але нічога не выходзіць. У нас нельга так сабе гуляць; калі хто хоча з кімсьці кахацца, дык мусіць гэта быць муж і жонка. Прынцып вельмі цвёрды. А ўжо ж мне хутка сорак, дык платанічна закахацца цяжка. Што мне рабіць, парай, Сэрцайка?!.

**Віка**

Віка! Твая сітуацыя не з лёгкіх. Я разумею, што аптымальным выйсцем для цябе было б мець каханага мужа і застацца пры той веры, якую ты сабе выбрала. Але ў жыцці, як ты ўжо пераканалася, калі не ісці на кампрамісы, дык можна і цалкам прайграць. Застаецца або каханы муж, але іншаверац (мо там знойдзеш), або малітвы і служэнне Богу, але без мужчынскай ласкі. Падумай і вырашы, што для цябе важнейшае.

**СЭРЦАЙКА**

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

— Маю цябе досыць па самае горла! — крычыць усхваляваны паводзінамі вучня настаўнік. — Хацеў бы я быць тваім бацькам хаця б з тыдзень, тады цябе навучыў бы!

— Добра, пагавару пра гэта з маёй маці. Думаю, што згодзіцца.

* * *

— Падазраю, што жонка здраджвае мяне з адным баксёрам.

— І што думаеш зрабіць?

— Сказаў бы я яму, што пра яго думаю, толькі ў мяне няма тэлефона.

* * *

— Едзем заўтра на экскурсію! — гаворыць муж жонцы.

— Не маю ў што апрануцца.

— Не турбуйся, дам табе свой рукзак.

* * *

— Чаго жадаеце? — ветліва пытае маладая прадаўшчыца старэйшага пакупніка.

— А спаўніце маё жаданне?

— Пастараюся.

— Хацеў бы я пазбавіцца рэўматызму і дамовіцца з вамі на спатканне.

* * *

— Прыкра старэць у адзіноце, — наракае Кавальскі.

— Чаму ў адзіноце? Ты ж жанаты... — гаворыць сябра.

— Ну, так. Толькі ўжо ад дзесяці гадоў мая жонка не адзначае свайго дня нараджэння.

* * *

— Скажы, каханы, ці я — твая першая дзяўчына?

— Гэта магчыма. Ці была ты сем гадоў таму ў Закапаным?

* * *

Гавораць дзве сяброўкі.

— Калі муж да мяне дрэнна ставіцца, гавару яму, што выеду да мамы.

— Я маю лепшы метад: гавару, што запрашу маму да нас.

* * *

Жонка папракае мужа:

— Помніш, абяцаў ты мне, што станеш іншым чалавекам, а ўсё-такі надалей п'еш гарэлку...

— Абяцаў і слова стрымаў: я — іншы чалавек, але ён таксама п'е.

* * *

— Нагадваеш мне самалёт, — гаворыць жонка мужу.

— Таму, што я такі дынамічны?

— Не, няма з цябе ніякай карысці на зямлі...

Сабраў
**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

### Д'ЯБЛЫ

Многія недасведчаныя аматары вострых прыгод і ліхтужных перажыванняў часам блытаюць д'ябла з чортам. А гэта несправядліва. Чорт — пачвара, здатная хіба што на дробныя гнюснасці (згадайма Чорта Хатняга, які здолеў падмануць сумнавядомага беларускага паэта С. А.). Д'ябал, перш за ўсё, пачвара здатная да больш маштабных і нават трагічных па сваіх выніках паскудстваў. Канчатковая мэта кожнага такога паскудства — здабыванне бессмяротнае чалавечае душы, у гэтым — сэнс дзейнасці пачвары. Для дасягнення сваіх мэтаў д'ябла не грэбуюць нічым, яны ўздзейнічаюць на найбольш моцныя і неадольныя пачуцці людзей: хцівасць, юрлівасць і прагу ўлады. Пачваразнаўцы, якія цудам ацалелі пасля спаткання з гэтай падступнай істотай, вызначылі, што д'яблы бываюць адно мужчынскага роду. Гэтыя ж пачваразнаўцы падзяляюць іх на здабывальнікаў мужчынскіх і жаночых душаў.

### Д'ябал-ліхвяр

Гэтая жахлівая, але навучальная гісторыя надарылася ў мінулым годзе ў Пінску. Адзін з сяброў палешуцкаяцвяжскага таварыства „Узбудзіньне", нехта Мыкола Трыш-ко, з мэтаю ажыццяўлення сваіх сепаратысцкіх мэтаў па „вызваленню палешуцкага народа ад беларускіх акупантаў" заняўся камерцыяй, якая зводзілася да перапродажу беларускага сала і маргарыну ў расейскай сталіцы. Некаторы час яму шанцавала, але з увядзеннем мытнага дагляду гандаль Мыколы Трыш-ко прыйшоў у заняпад. Гандляра-сепаратыста не ўратавалі нават праваднікі-тубыльцы, якім былі вядомы свінячыя сцежкі на беларуска-расейскай мяжы. Аднойчы, пасля таго, як беларускія мытнікі сканфіскавалі ўвесь тавар, Мыколе нічога больш не заставалася, як вярнуцца ў родныя яцвяжскія балоты, дзе яго чакалі раз'юшаныя крэдыторы. Паграджаючы помстай у лепшых палескіх традыцыях — уставіць у дупу Мыколы гарачы паяльнік, яны прымусілі даць распіску, што ён верне грошы праз тры дні. Разгублены сепаратыст, выцягнуўшы апошнія прыхаваныя ад крэдытораў грошы з таго самага месца, куды бандыты абяцалі ўставіць паяльнік, накіраваўся ў бар з мэтаю напіцца да смерці. Пасля другой пляшкі народнага напоя яцвягаў, бураковай гарэлкі, камерсант убачыў перад сабою нейкага файнага паночка, якога ўсхваляваны Мыкола спярша прыняў за агента службы Дзяржаўнай бяспекі, бо той у барным тлуме падаўся яму да непрыстойнасці цвярозым. Файны паночак, ні пра што не расказваючы, прапанаваў падпісаць кантрактc на душу гандляра ўласнаю крывёю тэрмінам на паўгода. Такім чынам пагадненне паміж палешуком і д'яблам адбылося. Дзякуючы д'ябальскім грошам Мыкола не толькі разлічыўся з крэдыторамі, але і здолеў выдаць некалькі нумароў паскуднай газеткі. За тыдзень да заканчэння тэрміну канчаткова працверазелы Мыкола падаўся да свайго сябра і паплечніка, уніяцкага святара...

Той прычапіў яму на шыю прывезены з Ватыкана высвенчаны амулет, і папярэдзіў: д'ябал не зможа забраць ягоную душу, пакуль амулет вісіць на сепаратысце-гандляры. Можа, Мыкола і здолеў бы ўратавацца, каб не юрлівасць праўдзівага палешука; адчуўшы палёгку, бо тэрмін скончыўся, а д'ябал не з'явіўся, Мыкола Трыш-ко падаўся да сваёй аднадумніцы-палюбоўніцы. Падчас занадта эмацыйнага абмеркавання будучага герба Палешуцкай Рэспублікі (Мыкола Трыш-ко прапанаўваў эмблему бровара „Крышталь"; два чорныя буслы жлукцяць гарэлку са жбана), дзяўчына, каб зразумець усю неаспрэчнасць аргументаў свайго сябра, падставілася пад яго. Ладкуючыся ззаду, Мыкола неасцярожна нагнуўся, і сімвал высвенчаны ў горадзе св. Пятра, знік у вільготнай адтуліне. Усе спробы выцягнуць святую рэліквію былі дарэмнымі. Следам за уніяцкім амулетам адтуліна ўсмактала і ланцужок. Зляканы Мыкола зазірнуў у адтуліну, дзе сустрэўся позіркам з жахлівым бляскам фасфарычных вачэй. „Хто ты?", — спытаўся Мыкола, ледзь варухаючы языком. „Д'ябал!.." — адказала адтуліна пуржавелымі вуснамі. „Хадзі да мяне!.." Падпарадкоўваючыся гіпнатычнаму позірку д'ябла, Мыкола падаўся ў чорнае чэрава. Сепаратыста-гандляра доўга шукалі сябры і паплечнікі, паспрабавалі вызваліць; але яго голас рабіўся цішэй і цішэй, і праз гадзіну ён нават не азываўся на кліч „Жывэ Полісьсе!.." Такім чынам, пазбаўлены лідэра сепаратысцкі рух пайшоў у заняпад...

Калі пра гэтае прыкрае здарэнне даналіся шырокія колы беларускай грамадскасці, то прысуд быў аднадушны: „Вось смерць, вартая здрадніка!.."

*(працяг будзе)*

Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС І МАРЦІН ЮР**